● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

17 студзеня 1998 г. субота, № 12 (23363)

# ЗВЯЗДА



*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### ЗНОЎ СПІРТЗАВОД, ЗНОЎ АХВЯРЫ

«Звязда» ўжо паведамляла аб трагедыі на Бярэзінскім спіртзаводзе, у выніку якой загінулі двое рабочых. Днямі прыйшла сумная вестка яшчэ з аднаго спіртзавода, на гэты раз з Чэрвеньскага, дзе здарылася нешта падобнае. На жаль, папярэдняя інфармацыя аказалася не зусім поўнай: ахвяры таксама былі дзве.

Усё адбывалася прыкладна так. Двое рабочых вытворчага аб'яднання «Мінскпрамбуд» па дамовах падраду ўзяліся пафарбаваць 20-кубовыя цыстэрны на чэрвеньскім спіртзаводзе «Раванічы». Адметна, што афарбоўка праводзілася ў закрытым памяшканні пры даволі высокай канцэнтрацыі лёгкаўзгаральнай пары. Што з гэтага атрымалася, здагадацца няцяжка. Праўда, прычына здарэння да канца застаецца нявысветленай: паводле адной з версій, ёй стала раптоўна трэснуўшая пераносная лямпачка, паводле другой — цыгарэта. У выніку выбуху 56-гадовы рабочы загінуў на месцы, яго 60-гадовы напарнік быў дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне мясцовай бальніцы з апёкамі 80 працэнтаў цела. Выратаваць яго жыццё таксама не ўдалося.

**Сяргей ГРЫБ.**

### НЕКАТОРЫЯ ЛЮБЯЦЬ ШАКАЛАД... АСАБЛІВА ДАРМОВЫ

«Звязда» ужо паведамляла пра злоўжыванні пры размеркаванні гуманітарнай дапамогі камітэта Чырвонага Крыжа ў Баранавічах. І вось штосьці падобнае здарылася ў Кобрынскім раёне.

З Люксембурга для дзяцей Дзвінскай школы-інтэрната адправілі гуманітарную дапамогу. Па мытнай дэкларацыі было ўстаноўлена, што школа павінна была атрымаць 7 веласіпедаў і 1400 кілаграмаў шакаладу. Але падчас праверкі выявілася, што з усяго гэтага гуманітарнага грузу да дзяцей дайшлі толькі тры веласіпеды.

Шакалад, які прапаў, а таксама астатнія веласіпеды цяпер шукаюць праваахоўныя органы. І тут прыцягвае ўвагу адзін факт. Права атрымліваць і размяркоўваць гуманітарную дапамогу на Брэстчыне маюць больш за трыццаць арганізацый. Вядома, не ўсе там зладзеі, але, як паказвае жыццё, пагрэць рукі на дармовым, ахвотнікаў хапае. Толькі ў мінулым годзе Брэсцкая вобласць атрымала гуманітарнай дапамогі на 5 мільёнаў долараў.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*«Гарачыя» тэлефоны «Звязды»*
*268-27-51, 268-27-57*

### ІЛЬГОТНЫЯ ЛЕКІ. ДЛЯ КАГО?..

З намі звязаўся жыхар Мінска Уладзімір Васільевіч КУЗЬМЯНОК і расказаў пра свае няўдалыя спробы «прабіць» лекі па льготнаму кошту.

Наш чытач — інвалід II групы. Здавалася б, каму яшчэ больш неабходныя танныя лекі, як не яму. Тым больш, што пасля абследавання ў стаматалагічным кабінеце Уладзіміру Васільевічу паставілі дыягназ — парадантоз. Каб вылечыць захворванне, урач параіў набыць у аптэцы мазь. Калі ж пацыент пацікавіўся наконт ільготнай скідкі, то эскулап у падобным рэцэпце яму адмовіў. Сказаў, што не мае права выпісваць. Тут Кузьмянок і здзівіўся — як так, усе медслецыялісты не задумваючыся афармляюць ільготны рэцэпт, а тут раптам такое... «Мабыць, танна каштуе», — падумаў інвалід і патэлефанаваў у аптэку. Там, дарэчы, яго расчаравалі — за патрэбную мазь неабходна было выкладаць 120 тысяч рублёў. Амаль чвэрць пенсіі.

Усе льготы, як звычайна тлумачаць нямоглым людзям, датычацца аснoўнага захворвання. Няўжо ж зубы менш за ныркі баляць?..

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*СТЫХІЯ*

## ЗІМОВАЯ ПАВОДКА НА БЕЛАРУСІ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Нечаканая адліга, якая знянацку завітала да нас у канцы снежня, затрымалася ў нашай рэспубліцы аж да паловы студзеня. Нягледзячы на тое, што на носе ўжо калядныя маразы (пачынаючы з 19 студзеня), подых вясны працягвае свой шлях далей углыб рэспублікі.**

Як паведамілі рэдакцыі ў Дзяржкамітэце па гідраметэаралогіі, зараз пачаўся крыгалом на рэках басейна Заходняга Буга, Нёмага, Віліі і большасці прытокаў Прыпяці.

У сувязі з цёплым надвор'ем амаль на ўсіх рэках краіны пачалася зімовая паводкі. Найбольш хутка расце ўзровень вады на Прыпяці і яе прытоках. Так, на рацэ Гарынь пад г.п. Рэчыца Столінскага раёна ўзровень вады дасягнуў 205 см у параўнанні з перадпаводкавым. Амаль усюды вада тут выйшла на пойму, і глыбіня затаплення абалонных зямель склала ўжо 125 см. Рачная вада хлынула на сенажаці, пашы і азімыя культуры ў некалькіх гаспадарках раёна.

У наступныя дні ў Столінскім раёне вада пойдзе на спад, але абалонным землі яшчэ доўгі час будуць у водным палоне.

На астатніх прытоках Прыпяці (рэкі Піна, Случ, Цна, Пціч, Убарць) паводка працягвае набіраць моцы з сутачнай інтэнсіўнасцю 1—10 см. На працягу наступнага тыдня рост узроўню вады на Прыпяці за кошт як паступлення з верхняй часткі ракі і прытокаў будзе працягвацца, а зоны разліву павялічацца.

Зараз сваю моц паводка накіравала ў Жыткавіцкі раён, дзе глыбіня затаплення поймы склала больш аднаго метра. Пад вадой у гэтым раёне апынуліся не толькі сельгасугоддзі, але нават і прыбярэжныя забудовы і агарoды.

Аб такіх сітуацыях гідролагі імгненна інфармавалі кіраўніцтва Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

Сёння брыгады гэтага ведамства разам з мясцовымі службамі прымаюць усе меры па забеспячэнню людзей у гэтым раёне ўсім неабходным. Акрамя таго гідролагі папярэджваюць, што паводка на наступным тыдні, «накрые», хутчэй за ўсё, яшчэ і Петрыкаўскі, Лельчыцкі, Мазырскі і нават Калінкавіцкі раёны Гомельскай вобласці.

На Дняпры, Сожы, Заходняй Дзвіне яшчэ захоўваецца ледастаў з праталінамі і прамынамі, а на Нёмане адбываецца невялікае павышэнне ўзроўню вады. На асобных участках гэтых рэк вада выйшла на пойму, але шырокіх разліваў тут пакуль няма.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*СВЯТА*





## ВАДОХРЫШЧА



Фота Васіля ЗЯНЬКО.

*СКАНДАЛ*

## ВОСЬ ТАБЕ, БАБУЛЬКА, І «ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ»!

**Футбольная скандальная хроніка раскручваецца па непрадказальнай спіралі: здаецца, яшчэ нядаўна прэзідэнт ЗАТ «ФК «Дынама (Мн)» Яўген Хвастовіч прызначыў на пасаду начальніка мінскай каманды «Атака-Аура» (нагадаем, што Хвастовіч і яго кампаньёны з'яўляюцца заснавальнікамі гэтага клуба) прадпрымальніка Леаніда Панаса, а ўжо на гэтым тыдні апошні падаў у Фрунзенскі РАУС г.Мінска заяву на спадара Хвастовіча на прадмет узбуджэння крымінальнай справы.**

Сыр-бор разгараўся адразу ж пасля намеру Яўгена Яўгенавіча перадаць «Атаку» ў іншыя рукі. Тут і кандыдат знайшоўся — Леанід Панас, працаваць з якім не захацеў ні галоўны трэнер «Атакі» Якаў Шапіра, ні ігракі каманды. Усе яны ўзялі курс на бырысаўскі клуб БАТЭ, які з новага сезона будзе трымаць дэбют у вышэйшай лізе нацыянальнага чэмпіянату. Беларуская Федэрацыя футбола стала на бок футбалістаў, і асаблівых праблем з пераходам ігракоў не прадбачылася, калі б не адно «але». Аказваецца, барысаўчане павінны былі выплаціць «гаспадарцы» Хвастовіча за футбалістаў «пэўную» суму грошай — бакам заставалася толькі дамовіцца аб яе памерах. І хоць, як кажуць, грошы не пахнуць, у нашым выпадку вышэйназваная гісторыя з купляй-продажам ігракоў, прабачце за прамалінейнасць, натуральным чынам дрэнна патыхала, а зараз яшчэ і набыла крымінальны характар.

— 17 лістапада мінулага года я быў па статуту абраны прэзідэнтам «Атакі», — расказаў учора карэспандэнту «Звязды» Леанід Панас. — Ігракоў, якія вырашылі пакінуць клуб разам з трэнерам, не асуджаў, у рэшце рэшт, гэта іх асабістая справа. Аднак жа трэба было ўжо думаць і пра стварэнне новай каманды — адкрыцьцё чэмпіянату «на носе» вісіць. Такім чынам і было вырашана, што барысаўскі БАТЭ заплаціць нам грошы за перайшоўшых футбалістаў, і на іх мы зможам «прыкупіць» сабе новых ігракоў. Я адправіўся ў Барысаў, і пасля некаторых перамоў мы заключылі афіцыйную дамову, што за ўсіх атакаўскіх футбалістаў барысаўчане заплацяць камандзе 40 тысяч долараў. Як толькі аб гэтым даведаўся Яўген Хвастовіч, ён ледзь не з'еў мяне за тое, што сума кампенсацыі вельмі малая.

***— А якую кампенсацыю хацеў бы бачыць Яўген Яўгенавіч?***

— 2 мільёны долараў! Але гэта нерэальна! На такое не пойдзе ніводны клуб, і я гэта Хвастовічу папулярна растлумачыў. На што ён мне адказаў: «Пішы заяву аб сваім звальненні па ўласнаму жаданню заднім чыслом. Чаму я павінен яе пісаць, калі ўжо ёсць дамова з барысаўчанамі? Так Хвастовічу і сказаў. І вось днямі еду з дачкой на машыне, пад'язджаю да свайго дома, і тут да мяне падыходзяць нейкія бамбізы спартыўнага целаскладу. Кажуць: «Зараз ты па-добраму падпішаш заяву аб сваім звальненні. Не захочаш па-добраму, будзе па-іншаму». Я, вядома, адмовіўся, і тут з другой машыны сам Хвастовіч выходзіць і крычыць: «Цягніце яго за рукі-ногі ў машыну, тут ён хутка ўсё падпіша». Адным словам, у двары такі вэрхал падняўся, суседзі павыходзілі. Сведак хапала... А я адразу ж пасля гэтага аднёс на Хвастовіча заяву ў Фрунзенскі РАУС, маю намер звярнуцца і ў Федэрацыю футбола па факту пагроз у мой адрас.

***— Яўген Хвастовіч — адзін з заснавальнікаў «Атакі», і наўрад ці надалей вам там знойдзецца месца...***

— А я аб гэтым ніколькі не шкадую. Шкада толькі, што заўтра (17 студзеня. — **Аўт.**) каманда павінна была ўжо пачаць працаваць, аднак пакуль што аб гэтым і марыць не даводзіцца.

...Не выключана, што ёсць аб чым сказаць і самому Яўгену Хвастовічу, аднак у чарговы раз сустрэцца з ім так і не давялося: ці то ў Яўгена Яўгенавіча праблем шмат, ці то проста ён гэтага не жадае. Між тым, пра пытанне «быць альбо не быць?» мінскай камандзе «Атака» ўжо неяк і забылiся. Куды там футбол?! Не да яго. Лепш прыпадобніцца вядомага персанажа з фільма «Вяселле ў Малінаўцы», які з вырачанымі вачыма троссяі немым голасам роў: «Баць-ка! Грошы давай! Гро-шы давай!..»

**Алесь СІВЫ.**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## НІХТО НЕ ЗМОЖА ПЕРАШКОДЗІЦЬ АДНАЎЛЕННЮ НАШАГА АДЗІНСТВА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў губернатараў Расійскай Федэрацыі і кіраўнікоў дэлегацый, якія прыбылі на святкаванне 60-годдзя ўтварэння Мінскай вобласці. Сустрэча адбылася 16 студзеня ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы.

«Вы прыехалі на свята самай буйной у рэспубліцы вобласці, якая на 30 працэнтаў забяспечвае патрэбнасці краіны і яе сталіцы, — сказаў, вітаючы гасцей, Аляксандр Лукашэнка. — Вынікі работы за мінулы год у гэтым рэгіёне, як і ў іншых абласцях, выглядаюць абнадзейліва і сведчаць аб тым, што мы можам жыць дастойна. Наша статыстыка вядзецца па еўрапейскіх стандартах, і гэтыя вынікі прызнаны Сусветным банкам, іншымі міжнароднымі арганізацыямі».

Адзначыўшы тэндэнцыю, што намецілася ў аздараўленні эканомікі, кіраўнік дзяржавы падкрэсліў неабходнасць аднаўлення сувязяў з рэспублікамі былога Савецкага Саюза. «Беларусь не можа існаваць без самых цесных узаемасувязяў з Расіяй, Украінай, іншымі краінамі з СНД, — сказаў ён. — Мы прытрымліваемся гэтай пазіцыі няўхільна, арыентуючыся на супрацоўніцтва з рэгіёнамі, і атрымліваем ад такіх кантактаў надзвычайныя вынікі. Гэта дае надзею нашым людзям, што мы будзем жыць разам, а я ў гэтым абсалютна пераканаяны».

У гады Вялікай Айчыннай вайны Беларусь страціла амаль трэць свайго насельніцтва, але не здалася, адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Краіна дастойна паднімалася з руін агульнымі намаганнямі. «І сёння, — сказаў прэзідэнт, — ніхто не зможа перашкодзіць станаўленню нашага адзінства».

У слове ў адказ прадстаўнікоў Расійскай Федэрацыі і Украіны таксама прагучала надзея на паспяховае аднаўленне страчаных сувязей. Ужо сёння ёсць станоўчыя вынікі сумеснай дзейнасці шэрагу абласцей Расіі і Беларусі. Напрыклад, аб'ём знешняга гандлю паміж нашай рэспублікай і Яраслаўскай вобласцю за мінулы год дасягнуў 153 мільёнаў долараў. Вынікам гэтай работы стала рэалізацыя сумеснай праграмы развіцця аўтамабіле- і дызелебудавання. Яраслаўцы павялічылі выпуск рухавікоў на 48 працэнтаў, а Беларусь — у два разы пастаўкі тэхнікі ў Расію. Гэтыя станоўчыя тэндэнцыі ў эканоміцы, лічаць кіраўнікі расійскіх рэгіёнаў, заўтра прывядуць і да ўмацавання пазіцый на шляху да аб'яднання.

Выказваючы найлепшыя пажаданні кіраўніку дзяржавы і ўсяму беларускаму народу, госці выказалі надзею на аднаўленне сувязяў не толькі ў галіне эканомікі. На іх думку, неабходна аднавіць і ўзняць на больш высокі ўзровень кантакты ў галіне культуры, спорту і турызму, іншых сферах дзейнасці.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

### ТОЛЬКІ ФАКТ

Ад 500 да 700 мільярдаў долараў у год **плацяць наркадзялкам** мільёны жыхароў нашай планеты, якія заражаны наркатычнай атрутай.

Калі ў 1965 годзе на 1000 жыхароў Беларусі прыпадала 24,4 **нараджаных дзяцей**, у 1970-м — 16,2, у 1985-м — 16,5, то ў 1990-м — усяго 13,9.

Афіцыйная статыстыка сведчыць, што за апошнія 4 месяцы 1997 года **штомесячная выяўленасць ВІЧ-інфекцыі** складае 27—32 выпадкі ў рэспубліцы, а за аналагічны перыяд 1996 года — 42—99 выпадкаў.

У перыяд з 1980 па 1986 год **у Афганістане** знікла бясследна 12 грамадзян Беларусі.

## ПРЫДНЯПРОЎЕ ГЛЯДЗІЦЬ У БУДУЧЫНЮ З АПТЫМІЗМАМ

Яркай старонкай упісаны апошнія 60 гадоў у летапіс слаўнай гісторыі Магілёўскай вобласці. Менавіта такі часавы адрэзак існуе яна як адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка Беларусі. Гэтаму юбілею быў прысвечаны ўрачысты сход у Палацы культуры хімікаў. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх пакаленняў, самыя знатныя людзі рэгіёна. Падзяліць радасць урачыстасці прыехалі дэлегацыі з Масквы, Бранскай, Смаленскай, Яраслаўскай, Чарнігаўскай абласцей, а таксама з усіх куткоў нашай рэспублікі і яе сталіцы.

З юбілеем удзельнікаў сходу і ўсіх жыхароў Магілёўшчыны павіншаваў Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Павел Шыпук. Ён зачытаў віншаванне прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі і ўручыў Ганаровы дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь, якім вобласць узнагароджана за асаблівыя дасягненні ў сацыяльна-культурным развіцці і ў сувязі з 60-годдзем з дня ўтварэння. Ва ўрачыстасцях прынялі таксама ўдзел першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Русакевіч, віцэ-прэм'ер урада Генадзь Навіцкі, кіраўнік спраў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Ціцянкоў.

Старшыня аблвыканкама Аляксандр Кулічкоў, які выступіў з дакладам, расказаў аб важнейшых этапах шасцідзесяцігадовага шляху Магілёўшчыны. Гэта былі гады вялікіх здзяйсненняў і надзвычай цяжкіх ваенных выпрабаванняў, аднаўлення разбуранай народнай гаспадаркі, шырокага размаху будаўніцтва.

Сённяшняя Магілёўшчына — гэта край вялікай хіміі, машынабудавання, лёгкай і харчовай прамысловасці. Тут працуюць буйнейшыя ў свеце Магілёўскае ВА «Хімвалакно» і Беларускі шынны камбінат «Белшына» ў Бабруйску. У вобласці чатыры вышэйшыя навучальныя ўстановы, два інстытуты Нацыянальнай акадэміі навук, 20 сярэдніх спецыяльных навучальных установ, дзесяткі прафтэхвучылішчаў і сотні школ.

Магілёўская зямля ўзгадавала шмат таленавітых і выдатных людзей. Сярод іх — Панцеляймон Лепяшынскі і Уладзімір Бонч-Бруевіч, вядомы палярнік Ота Шміт і мастак Вітольд Бялыніцкі-Біруля, пісьменнік Максім Гарэцкі і паэт Аркадзь Куляшоў, кінаакцёр Пётр Алейнікаў і кампазітары Яўген Цікоцкі, Эдуард Калманоўскі, Уладзімір Алоўнікаў, Мікалай Чуркін, а таксама многія іншыя. Нарэшце, Прыдняпроўскі край — гэта радзіма першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

У новы 1998 год працаўнікі вобласці ўступілі з цвёрдым намерам не толькі захаваць тэмпы росту ў эканоміцы, у развіцці сацыяльнай сферы, але і прымножыць дасягнутыя вынікі, заявіў Аляксандр Кулічкоў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## ЧАС ПАДВОДЗІЦЬ ВЫНІКІ І СТРОІЦЬ ПЛАНЫ

Урачысты сход, прысвечаны 60-годдзю ўтварэння Мінскай вобласці, адбыўся 16 студзеня ў Канцэртнай зале «Мінск». У ім прынялі ўдзел прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, члены ўрада і парламентарыі, іншыя афіцыйныя асобы, а таксама Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. На сходзе прысутнічалі і госці з Расіі і Украіны, якія прыбылі на юбілейныя ўрачыстасці.

У сваім дакладзе старшыня Мінскага аблвыканкама Пётр Пётух расказаў аб дасягненнях вобласці. Потым на сходзе выступіў Аляксандр Лукашэнка, які ацаніў вынікі развіцця эканомікі і аграпрамысловага комплексу Міншчыны і рэспублікі ў цэлым, акрэсліў далейшыя перспектывы. Прэзідэнт уручыў старшыні аблвыканкама Ганаровы дзяржаўны сцяг рэспублікі, якім Мінская вобласць узнагароджана за дасягнутыя поспехі.

На сходзе таксама зачыталі віншавальныя тэлеграмы, якія прыслалі з нагоды юбілею мэр Масквы Юрый Лужкоў, губернатар Санкт-Пецярбурга Уладзімір Якаўлеў, кіраўнікі Курскай, Чэлябінскай, Валгаградскай, Свярдлоўскай, Ленінградскай і Растоўскай абласцей.

**Аксана АСПІШЧАВА, БЕЛТА.**

## СВЯТКАВАЛА ГОМЕЛЬШЧЫНА

Гомельская вобласць адсвяткавала 60-годдзе свайго ўтварэння. З гэтай нагоды ўрачыстасці прайшлі ва ўсіх яе раёнах, а ў чацвер яны завяршыліся ў грамадска-культурным цэнтры Гомеля. Сюды на ўрачысты сход былі запрошаны прадстаўнікі працоўных калектываў усіх галін народнай гаспадаркі, Героі Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы, кавалеры ордэнаў баявой і працоўнай славы, ветэраны, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё вобласці, члены Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, міністры, выхадцы з Гомельшчыны.

На сход прыбылі таксама дэлегацыі з усіх абласцей краіны і горада Мінска, суседніх абласцей Расіі і Украіны. У рабоце сходу прынялі ўдзел цёпла сустрэтыя прысутнымі Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Малафееў, Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Павел Шыпук, віцэ-прэм'ер камітэта Дзяржкантролю РБ Андрэй Кабякоў.

У сваім дакладзе старшыня аблвыканкама Мікалай Вайцянкоў расказаў аб гісторыі развіцця вобласці, яе працоўных поспехах і засяродзіў увагу на пытаннях і праблемах, якія неабходна вырашаць. Удзельнікаў сходу віталі кіраўнікі Бранскай і Чарнігаўскай абласцей, сталіцы Беларусі, прадстаўнікі працоўных калектываў Гомельшчыны.

Затым выступіў Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Малафееў. Ён зачытаў віншаванне працаўнікам і ўсім жыхарам вобласці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з нагоды знамянальнага юбілею і ўручыў вобласці Ганаровы дзяржаўны Сцяг.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## БЕЛАРУСКАЕ ПААЗЕР'Е СЛАВУ СВАЮ ШАНУЕ І ПРЫМНАЖАЕ

Выступаючы 15 студзеня перад удзельнікамі ўрачыстага сходу з нагоды 60-годдзя ўтварэння Віцебскай вобласці, старшыня Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Андрэйчанка назваў імёны тых, хто абараняў гэту зямлю, і тых, хто праславіў яе працай.

Віцебская вобласц — гэта яшчэ і калыска паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў. Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Васіль Быкаў, Іван Хруцкі, Міхаіл Савіцкі, Марк Шагал, Заір Азгур, Ігнат Буйніцкі, Марк Фрадкін і іншыя яе ўраджэнцы падхапілі і прадоўжылі традыцыі, асновы якіх былі закладзены ў больш раннія часы асветнікамі Ефрасінняй Полацкай, Васілём Цяпінскім, Сімяонам Полацкім, Францыскам Скарынай.

На ўрачыстым сходзе, прысвечаным юбілею вобласці, былі аб'яўлены калектывы і імёны працаўнікоў, якія ўзнагароджаны ганаровымі граматамі аблвыканкама і аблсавета. Акрамя таго, лепшыя прадстаўнікі вобласці Указам Прэзідэнта Рэспублікі і Пастановай Савета Міністраў узнагароджаны ордэнамі Айчыны III ступені, ордэнамі Пашаны, медалямі «За працоўныя заслугі», Францыска Скарыны. Савет Міністраў рэспублікі прысвоіў шэрагу працаўнікоў званні заслужанага работніка прамысловасці і заслужанага работніка сельскай гаспадаркі, узнагародзіў калектывы, якія найбольш вызначыліся, ганаровымі граматамі за вялікі ўклад у развіццё рэгіена.

Менавіта як поспех былі ацэнены вынікі работы апошніх гадоў вобласці па пераадоленню крызісных з'яў, наладжванню рыначных адносінаў, пошуку і замацаванню сваёй нішы ў эканоміцы ў віншаванні прэм'ер-міністра рэспублікі Сяргея Лінга, які прыняў удзел ва ўрачыстасцях.

— Я прывёз вам ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь падзяку за вашу працу, прывітанне і найлепшыя пажаданні, — паведаміў прэм'ер-міністр і зачытаў тэкст віншавання Аляксандра Лукашэнкі працоўным і ўсім жыхарам Віцебшчыны. Ён уручыў вобласці Ганаровы дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь за асаблівыя дасягненні ў сацыяльна-культурным развіцці і ў сувязі з 60-годдзем з дня ўтварэння, прысвоены Віцебшчыне Указам Прэзідэнта Рэспублікі.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## СУДОВЫ РАЗБОР ЗАВЯРШЫЦЬ НЕ ЎДАЛОСЯ

У Ашмянскім раённым судзе, дзе разглядаецца крымінальная справа ў адносінах да супрацоўнікаў Грамадскага расійскага тэлебачання Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага, 16 студзеня меркавалася завяршыць гэты судовы разбор. Аднак пасяджэнне суда не адбылося з-за няяўкі на яго Паўла Шарамета. Як растлумачылі абаронцы, ён не змог прыбыць у сувязі з раптоўнай хваробай і шпіталізацыяй маці.

Нагадаем, што суд па гэтай справе пачаўся месяц таму — 17 снежня мінулага года. Наступнае яго пасяджэнне назначана на 19 студзеня.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

## ЗА ЛЕПШУЮ РОЛЮ — СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРЫЗ КАМПАНІІ «ФІЛІП МОРЫС»

**На ўрачыстай цырымоніі, што адбылася 14 студзеня ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь, было названа імя артыста, якому прысуджаны спецыяльны прыз «Філіп Морыс» для артыстаў балета. Уладальніцай прыза і прэміі ў памеры пяць тысяч долараў стала заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Кацярына Фадзеева.**

У конкурсе на лепшую ролю года прынялі ўдзел пяць салістаў беларускага балета — Уладзімір Даўгіх, Веніямін Захараў, Руслан Мінін, Кацярына Фадзеева і Таццяна Шэметавец. Па словах старшыні журы конкурсу, мастацкага кіраўніка тэатра і галоўнага балетмайстра Валянціна Елізар'ева, выбар лаўрэата быў зроблены амаль што аднагалосна. Кацярына Фадзеева стала лаўрэатам прызу за выкананне ролі Раймонды ў аднайменным спектаклі А. Глазунова.

Прэмія «Філіп Морыс» за лепшае выступленне ў балетным спектаклі была ўпершыню заснавана ў 1977 годзе ў Фінляндыі і з таго часу ўручаецца ў Венгрыі, Чэхіі, Славакіі і Швецыі. З 1997 года — у Расіі і Беларусі. Падтрымка дасягненняў у галіне балета — адзін з вядучых накірункаў дабрачыннай дзейнасці кампаніі, якая на працягу вось ужо 40 гадоў з'яўляецца актыўным і шчодрым спонсарам у галіне культуры і мастацтва ва ўсім свеце. Прадстаўніцтва кампаніі «Філіп Морыс» у Беларусі з 1996 года ажыццявіла некалькі спонсарскіх праграм у галіне культуры. Пры ўдзеле кампаніі прайшлі фестывалі «Блюз жыве ў Мінску» і рэтраспектыва брытанскага кіно «Дзённыя сны», адбылася першая выстаўка твораў Марка Шагала ў Беларусі.

Прадстаўнік «Філіп Морыс» Дзмітрый Хрол пры ўручэнні ўзнагароды адзначыў:

— Філасофія нашай кампаніі, якая стала асновай поспехаў у бізнесе, у многім вызначае нашыя адносіны да мастацтва і культуры. Мы перакананыя, што творчая ініцыятыва, натхненне і прафесіяналізм — ключ да поспеху і ў бізнесе, і ў мастацтве. Таму кампанія «Філіп Морыс» імкнецца падтрымліваць праекты, якія садзейнічаюць развіццю культуры краіны, дзе яна працуе.

Заахвочвальныя прэміі — па 500 долараў атрымалі таксама ўсе ўдзельнікі конкурсу на лепшую ролю года.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## ПРАД'ЯВІЦЕ ДЭКЛАРАЦЫЮ

Паводле даных Мінскай гарадской падатковай інспекцыі, у Мінску на 10 студзеня прад'явілі дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе за 1997 год усяго 37 чалавек. А, па яе ж разліках, прад'явіць такія дэкларацыі павінны ў горадзе каля 300 тысяч чалавек. Тэрмін прад'яўлення дэкларацый, нагадаем, — з 1 студзеня па 15 лютага. У горадзе працуюць 10 раённых інспекцый — на адну, такім чынам, прыпадае каля 30 тысяч чалавек (каля 1000 чалавек у дзень).

Вядома, на пачатку года ўсе дружна святкавалі; не адразу выдалі людзям патрэбныя звесткі бухгалтэрыі, і, тым не менш, у гарадской падатковай інспекцыі не схільныя адносіцца да гэтай сітуацыі паблажліва. «Падача дэкларацый — гэта справа гонару грамадзян, гэта іх адносіны да закона, павага да яго», — падкрэсліваюць тут.

Менавіта патрабаванне аб дэклараванні сукупнага гадавога даходу грамадзян закладзена ў Закон аб бюджэце на 1997 год. Можна спрачацца наконт памераў падаткаабкладаемай базы, г. зн. наконт таго, з якіх сум мэтазгодна браць тыя ці іншыя працэнты, спрачацца наконт максімальнай стаўкі гэтых працэнтаў (нагадаем: максімальная стаўка падаткаабкладання ў нас 50 працэнтаў, а ў Расіі, да прыкладу, — 35), у выніку чаго складанне ўсіх даходаў і пагражае нямала каму больш высокім, «прагрэсіўным» працэнтам падаткаабкладання, і, адпаведна, значнымі сумамі даплаты. Аднак закон ёсць закон — ён аднолькавы для ўсіх, і яго трэба выконваць...

У Мінскай падатковай інспекцыі, падчас імправізаванай прэс-канферэнцыі, яшчэ раз нагадалі пра тое, хто абавязкова павінен прад'явіць дэкларацыі, а таксама растлумачылі асобныя «няштатныя» сітуацыі. У прыватнасці, зрабіла гэта начальнік аддзела дэкларавання даходаў і маёмасці фізічных асоб Наталля Давідовіч.

— Дэкларацыі павінны прадставіць ўсе тыя, хто на працягу года атрымліваў даходы ў 2 і больш крыніцах. Гэта, напрыклад, могуць быць даходы па асноўным месцы работы плюс даходы з-за мяжы, або плюс даходы па дагаворах падраду, па аперацыях з каштоўнымі паперамі і г. д. Дэкларацыя павінна быць прадстаўлена і ў тым выпадку, калі чалавек, які меў асноўнае месца работы, недзе ў іншым месцы атрымліваў каштоўныя падарункі (кошт падарунка ўключаецца ў дэкларацыю). Абавязковае прадстаўленне дэкларацый для прадпрымальнікаў.

Вызваляюцца ад прадстаўлення дэкларацый усе тыя, хто меў даходы толькі з адной крыніцы выплаты, а таксама тыя, у каго сукупны гадавы даход быў мінімальны, у прыватнасці, ніжэй за 19 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Вызваляюцца таксама ад падачы дэкларацый пенсіянеры і студэнты, якія, акрамя пенсій і стыпендый, мелі даходы з аднаго, асноўнага месца работы. У дэкларацыях не адлюстроўваюцца даходы, атрыманыя ў выглядзе дывідэндаў.

Кожны, каму належыць падаць дэкларацыю, павінен з'явіцца ў падатковую інспекцыю па месцы жыхарства і запоўніць там адпаведны бланк (апошні выдаецца бясплатна). Зразумела, папярэдне трэба сабраць усе звесткі аб даходах і налічаных на іх падатках (такія звесткі абавязаны прадставіць у бухгалтэрыях па месцы атрымання даходаў). Пры гэтым кожнаму ў падатковай інспекцыі будзе прысвойвацца ўліковы нумар падаткаплацельшчыка.

Зразумела, у дэкларацыях павінны быць указаны ўсе віды даходаў і, адпаведна, уплачаныя з іх падаткі. Падатковы інспектар падсумоўвае агульны гадавы даход і робіць пераразлік падатку, зыходзячы з прагрэсіўнай шкалы падаткаабкладання. Сума даплаты падатку ўносіцца ў тэрмін да 15 сакавіка.

Хачу папярэдзіць: кожнае прадпрыемства, якое выплаціла грамадзяніну пэўную суму, прадстаўляе ў падатковую інспекцыю па месцы жыхарства грамадзяніна на працягу года і да 1 лютага цяперашняга года адпаведныя звесткі. Таму не варта ўхіляцца ад дэкларацый, а таксама хаваць свае даходы. Тым, хто абавязаны прадставіць дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе, усё роўна давядзецца мець справу з падатковым інспектарам. Але ў такім выпадку ўзаемаадносіны могуць быць істотна ўскладнёныя. Меры ўздзеяння — сур'ёзныя. Ёсць адміністрацыйны штраф — ад 2 да 5 мінімальных зарплат. Мы можам суму падатку налічыць у памеры 150 працэнтаў, ды яшчэ налічыць 10 працэнтаў за несвоечасовую ўплату, пеню... Нашы інспектары працуюць у гэтыя дні да 20 гадзін вечара, арганізавана дзяжурства ў выхадныя дні. Словам, калі ласка, да нас...

Потым Наталля Давідовіч адказала на пытанні:

**— На працягу 1997 года тройчы мянялася мінімальная заработная плата і, адпаведна, шкала падаткаабкладання. Па якой шкале будзе весціся канчатковы разлік?**

— Па апошняй, якая вынікала з мінімальнай заработнай платы 200 тысяч рублёў і скарэкціравана з улікам папярэдніх «мінімалак», пры гэтым падаткаабкладанне робіцца па артыкулу 14 Закона аб бюджэце.

**— Ці павінны запаўняць дэкларацыю кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый, якія атрымліваюць заработную плату толькі ў сябе?**

— Не.

**— А журналіст, які мае як зарплату, так і аўтарскае ўзнагароджанне, але зноў жа — толькі на адным месцы работы?**

— Павінен, бо падаткі з асноўнай зарплаты і аўтарскага ўзнагароджання налічваюцца на працягу года па розных артыкулах.

**— Ці ўносяцца ў дэкларацыі прэміі?**

— Гледзячы якія. Ёсць асобныя віды даходаў, якія не абкладаюцца падаткам. Гэта, напрыклад, прэміі міжнародных арганізацый і дзяржаўныя прэміі Беларусі. У дэкларацыях яны паказваюцца, але падаткам не абкладаюцца.

**— Сітуацыя: падатковы інспектар пасля ўсіх падлікаў даходаў і канчатковага падатку налічыў 10 мільёнаў рублёў даплаты — дзе ўзяць?**

— У любым выпадку даплату трэба ўнесці, і менавіта да 15 сакавіка. Чалавек жа на працягу года атрымліваў даходы...

**— А калі раптам выяўлена пераплата?**

— Яе падатковая інспекцыя абавязана вярнуць або аднесці да заліку падатковых плацяжоў наступнага года, г. зн. сёлетняга.

**— Актыўнасць грамадзян, калі мець на ўвазе падачу дэкларацый, — зусім нізкая. Чым гэта можна растлумачыць?**

— Справа для ўсіх новая, і людзі, напэўна, не ўсвядомілі ўсю сваю адказнасць, адказнасць перад законам. Тым не менш, масавых амністый не будзе.

**ЗАМЕСТ ЗАКЛЮЧЭННЯ.** Такім чынам, як можна меркаваць па рашучасці падатковых органаў, дэкларацыю ўсё роўна трэба падаваць (многім). І даплачваць. Хоць, вядома ж, і не хочацца. Хоць, паўторым, і варта спрачацца адносна велічыні падаткаабкладаемай базы, «градуіроўкі» працэнтнай шкалы і максімальнай стаўкі ў 50 працэнтаў, якая адбівае ўсякую ахвоту зарабляць або схіляе цалкам сумленных грамадзян да абхадных манеўраў (зрэшты, сумленныя якраз сумленна і запоўняць, і заплацяць, а нядобрасумленныя — большай часткай няўлоўныя. Можа адсюль і 50 працэнтаў, у якія закладзена і доля няўлоўных?)... І варта, як раяць у падатковай інспекцыі, наведаць свайго інспектара загадзя, а не адкладваць візіт на апошні дзень. І не варта, як зноў жа просяць у падатковай інспекцыі, касавурыцца па розных дробязях, а быць у адносінах да падатковых інспектараў тактоўнымі — яны выконваюць свой прафесіянальны доўг, сваю работу... Можна меркаваць, падатковыя інспектары таксама будуць уважлівымі да нас і не стануць адносіць нашы несвядомыя дробязныя памылкі і нашы дробязныя ж правалы ў памяці да артыкула «ўтойванне даходаў».

Карацей, трэба ісці. А ўвогуле, як справядліва лічаць у падатковай інспекцыі, гэты акт павінен стаць сур'ёзнай праверкай грамадзян на законапаслухмянасць.

**Кар. «Звязды».**

**Па просьбе Мінскай гарадской падатковай інспекцыі «Звязда» друкуе адрасы раённых інспекцый горада.**

1. Заводская — вул. Мічурына, 7, каб. 405.
2. Ленінская — вул. Валадарскага, 10, каб. 7.
3. Маскоўская — вул. Караля, 20, каб. 1, 7, 18, 21, 22, 24.
4. Кастрычніцкая — вул. Чкалава, 6, каб. 21.
5. Партызанская — вул. Захарава, 53, каб. 411.
6. Першамайская — вул. К. Чорнага, 5, каб. 111.
7. Савецкая — вул. Я. Коласа, 19, каб. 9.
8. Фрунзенская № 1 — вул. Якубоўскага, 54-а, каб. 4.
9. Фрунзенская № 2 — прасп. Пушкіна, 11, каб. 218, 220.
10. Цэнтральная — зав. Камунальны, 3, каб. 109.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Мікалая Мікалаевіча ПІВАВАРЧЫКА.*** *Жадаем шчасця, радасці, здароўя, ва ўсіх справах поспеху, пяшчоты і цяпла.*

**Жонка, дзеці,** г. Навагрудак.

*Віншую з 20-годдзем* ***Мікалая Аляксандравіча РАШЧЭНЮ.*** *Жадаю здароўя, бадзёрасці, шчасця на доўгім жыццёвым шляху.*

**Бабуля**
з в. Касцюкі Любанскага раёна.

### СЁННЯ

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Феакціста, ЯЎстафія**
**К. Антонія, Расціслава**

**МЕСЯЦ**

***З 23.06 — 20-я месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Дзевы.***

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі невялікія ападкі. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0—2, Гродне, Мінску, Магілёве — 1—3, Гомелі — 2—4, Брэсце — 3—5 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 18-га месцамі невялікі снег, мокры снег, слабы галалёд; 19-га ўначы пераважна без ападкаў, удзень — па большай частцы тэрыторыі ападкі. Тэмпература ўначы 18-га — мінус 4 — плюс 1; 19-га — 1—6 градусаў марозу; удзень — мінус 2 — плюс 3.

# Сённяшні дзень Савета Рэспублікі ў пытаннях нашых чытачоў

**13 студзеня, якраз у дзень першай гадавіны Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі, у рэдакцыі «Звязды» адбылася «прамая лінія» з удзелам яго Старшыні Паўла Шыпука. Напярэдадні рэдакцыя атрымала каля сарака лістоў, дзе, як правіла, утрымлівалася далёка не адно пытанне. А за тую гадзіну, што была адведзена на тэлефонную размову, да нас змаглі дазваніцца больш за 30 чалавек. Гэта сведчыць, што інтарэс грамадства да прадстаўнічай улады не губляецца.**

**Усе, хто напісаў нам ці патэлефанаваў на «прамую лінію», атрымалі адказы на свае пытанні. Найбольш цікавыя фрагменты гутаркі мы сёння друкуем.**

**Неабходна таксама заўважыць, што падчас «прамой лініі» многія пытанні мелі прыватны характар. Зразумела, мы не сталі расказваць пра праблемы, якія непакояць асобных людзей. Іх пісьмы перададзены непасрэдна ў Савет Рэспублікі для рэагавання. Шмат людзей звярталася да Старшыні Савета Рэспублікі з просьбамі дапамагчы з жыллём, зямельнымі участкамі, рамонтам даху, тэлефонам.**

**Улічваючы гэта, пасля заканчэння «прамой лініі» мы пацікавіліся ў П. Шыпука, як ён лічыць: з'яўленне прыватных пытанняў — сведчанне недапрацоўкі мясцовых уладаў і немагчымасць вырашэння спецыфічных праблем на месцах, няведанне функцый парламента ці ў нашых людзей па-ранейшаму жыве моцная вера ў «высокага начальніка», таму яны спадзяюцца, пазваніўшы «наверх», вырашыць такім чынам свае праблемы. Вось што Павел ШЫПУК адказаў:**



— Нельга сказаць, што наша заканадаўства ідэальнае, але я перакананы, што сёння ёсць магчымасць для вырашэння абсалютнай большасці прыватных пытанняў на мясцовым узроўні. Тым не менш у людзей захавалася вера ва ўсёмагутнасць «тэлефоннага права». Чалавек лічыць, што толькі ён мае рацыю, таму, не атрымаўшы задавальнення сваёй просьбы на месцы, звяртаецца ў вышэйшыя інстанцыі. Калі ж мы пойдзем па шляху задавальнення прыватных просьбаў асобных людзей, не звяртаючы ўвагі на закон, то гэтым самым толькі выклічам новую хвалю зваротаў.

## Прававая культура

***Часта даводзіцца чуць: Палата прадстаўнікоў прыняла закон, Нацыянальны сход адобрыў, Савет Рэспублікі адхіліў... У нас што — тры парламенты? Ці журналісты нешта блытаюць? Наогул, што ўяўляе сабой Савет, якія яго паўнамоцтвы?***

(**І. НЯБОРСКАЯ,** Мінскі раён).

— Беларускі парламент называецца Нацыянальным сходам. Ён складаецца з дзвюх палат: Палаты прадстаўнікоў, дзе працуюць 110 дэпутатаў, і Савета Рэспублікі (64 чалавекі). У Палату прадстаўнікоў дэпутаты абіраюцца непасрэдна выбаршчыкамі, а Савет Рэспублікі — палата тэрытарыяльнага прадстаўніцтва. Восем членаў Савета прызначаюцца прэзідэнтам, а астатнія абіраюцца на пасяджэннях мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню: па восем чалавек ад кожнай вобласці і Мінска. Што да механізма разгляду дакументаў, то ён наступны. Палата прадстаўнікоў у двух чытаннях разглядае законапраекты, якія прадстаўляюцца суб'ектамі заканадаўчай ініцыятывы, пасля перадае іх у Савет Рэспублікі. Мы адабраем іх і накіроўваем на подпіс прэзідэнту, альбо вяртаем на дапрацоўку ў Палату прадстаўнікоў. Уносіць папраўкі ў дакументы мы не маем права. Такім чынам, ніякай размовы аб існаванні трох парламентаў не можа быць — у нас адзін двухпалатны парламент, які працуе як адзіны механізм заканатворчасці. Аднак ваша пытанне сведчыць аб неабходнасці павышэння прававой культуры насельніцтва, журналістаў. Іншы раз наогул атрымліваюцца ляпсусы. Днямі, напрыклад, супрацоўнікі Мазырскай тыпаграфіі прыслалі нам сігнальныя экземпляры газет, дзе наша палата называецца «Саветам рэспубліканскага Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь»...

***Хацелася б запытацца, ці вывучаецца нашымі заканадаўцамі сусветны вопыт, вопыт краін, дзе кіруюцца Яго Вялікасцю Законам? Ці існуе праграма павышэння прававой культуры насельніцтва? Калі так, то як яна ўвасабляецца ў жыццё?***

(**Г. ТОКАРАВА,** г. Мінск.)

— Савету Рэспублікі прыйшлося пачынаць дзейнасць, як кажуць, з «чыстага ліста». Гісторыя нашай дзяржавы за савецкі перыяд не ведае падобнай структуры тэрытарыяльнага прадстаўніцтва. Таму напачатку мы вывучалі і аналізавалі вопыт работы двухпалатных парламентаў краін СНД і Заходняй Еўропы, а потым ужо распрацоўвалі ўласны рэгламент, удасканальваючы яго падчас практычнай дзейнасці. З мэтай павышэння прававой культуры членаў Савета ў мінулым годзе мы правялі навукова-практычную канферэнцыю «Парламент у дзяржаўна-прававой сістэме», на якой уважліва вывучылі аспекты парламенцкага вопыту замежных краін. Такая работа будзе працягвацца. А вось рэспубліканскай праграмы павышэння прававой культуры насельніцтва ў нас пакуль, на жаль, няма. Таму на III сесіі я выступіў з прапановай аб стварэнні сумесна з урадам такой праграмы. СМІ таксама рэкамендую своечасова друкаваць заканадаўчыя акты.

***Колькі законапраектаў адобрыў і колькі адхіліў Савет за мінулы год? Па якіх прычынах? Ці азначае гэта, што паміж палатамі Нацыянальнага сходу няма паразумення?***

(**А. ЦІТАВЕЦ,** г. Мінск.)

— Савет Рэспублікі прыняў 161 пастанову па разглядаемых законапраектах: 15 дакументаў былі разгледжаны паўторна, 146 адобрана, а 14 адхілена. Аднак гэта не дае падстаў гаварыць пра існаванне канфлікту паміж палатамі. Гэта трэба расцэньваць як звычайную з'яву ў заканатворчай практыцы. Асноўнымі прычынамі адхілення некаторых дакументаў з'яўляюцца: неадпаведнасць іх асобным артыкулам Канстытуцыі, іншым заканадаўчым актам, актам міжнароднага права, а таксама парушэнне заканадаўчай тэхнікі. Шэсць разоў для пераадолення рознагалоссяў па асобных законапраектах ствараліся пагаджальныя камісіі.

***У Канстытуцыі няма падзелу палат парламента на «ніжнюю» і «верхнюю», аднак журналісты нярэдка называюць іх менавіта так. Ці абгрунтавана гэта?***

(**М. КАЧАН,** г. Мінск).

— Не. Падзел парламента на «ніжнюю» і «верхнюю» палаты Канстытуцыяй і заканадаўствам Рэспублікі не агавораны. Савет Рэспублікі, як і Палата прадстаўнікоў, у сваёй дзейнасці і ў афіцыйных паперах такія словы не выкарыстоўваюць. Што ж датычыцца выкарыстання азначэнняў «верхняя» і «ніжняя» сродкамі масавай інфармацыі ў адносінах да замежных парламентаў, у тым ліку і расійскага, то гэта не супярэчыць агульнапрынятай міжнароднай практыцы. Тэрмін «верхняя палата» выкарыстоўваецца па ўсім свеце для вызначэння той палаты парламента, якая, як правіла, не мае пярвічных прадстаўнічых функцый.

***Ці адчуваецца ў беларускім парламенце тое, што там прадстаўлена толькі каля 44 працэнтаў грамадзян Беларусі (110 дэпутатаў ад 260 акруг)? Якія перспектывы маюць астатнія 56 працэнтаў грамадзян, каб рэалізаваць канстытуцыйныя правы і мець сваіх прадстаўнікоў у парламенце?***

(**С. ЮДА,** г. Мінск.)

— Трэба зыходзіць з рэальнага стану рэчаў. Па дзеючай Канстытуцыі, якая атрымала адабрэнне на рэферэндуме ў лістападзе 1996 года, у Палаце прадстаўнікоў працуюць 110 дэпутатаў. Згодзен, што, пакуль не ўнесены змены ў заканадаўства па выбарах, у палаце няма прадстаўнікоў ад усіх 260 акруг. Новая колькасць выбарчых акруг, новая сістэма абрання дэпутатаў па выбарчых акругах будзе закладзена ў Законе «Аб выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў». Хачу звярнуць вашу ўвагу і вось на што. У Савеце Рэспублікі, як парламенцкай палаце тэрытарыяльнага прадстаўніцтва, ёсць прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Беларусі. І калі ад вашай выбарчай акругі не абраны дэпутат, гэта не азначае, што вашы інтарэсы наогул не прадстаўлены ў вышэйшым заканадаўчым органе краіны. Звяртайцеся да свайго прадстаўніка ў Савеце Рэспублікі.

***Чаму ў сённяшняга беларускага парламента, у адрозненне ад Вярхоўнага Савета, такія вялікія канікулы — 7 месяцаў? Няўжо дэпутатам няма чаго рабіць?***

(**В. МАРОЗ,** Івацэвіцкі раён.)

— Па-першае, працягласць сесійнай работы парламента строга рэгламентавана Канстытуцыяй Беларусі. Згодна з артыкулам 95, мы павінны праводзіць на год дзве сесіі працягласцю не больш за 170 дзён (веснавая сесія — не больш за 90 дзён, восеньская — не больш за 80). У выпадку неабходнасці па ініцыятыве прэзідэнта або па патрабаванню большасці ў дзве трэці ад саставу кожнай палаты могуць склікацца нечарговыя сесіі. Па-другое, канікулаў ні ў членаў Савета Рэспублікі, ні ў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў няма. У міжсесійны час парламентарыі займаюцца распрацоўкай законапраектаў, працуюць у акругах, рэгіёнах, сустракаюцца з выбаршчыкамі на месцах. Калі ж параўноўваць з былым Вярхоўным Саветам, то інтэнсіўнасць і выніковасць работы Нацыянальнага сходу ніколькі не меншая, чым папярэдняга парламента.

***Вярхоўныя Саветы XII і XIII скліканняў знаходзіліся ў жорсткай апазіцыі да прэзідэнта, да ўрада. Як будуюцца вашы ўзаемаадносіны з кіраўніком дзяржавы, з Саветам Міністраў?***

(**І. ХАТЫНЮК,** Мінскі раён.)

— На першым сумесным пасяджэнні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу перад членамі парламента выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Ацэньваючы ролю парламента, ён адзначыў высокую выніковасць яго дзейнасці. Прэзідэнт канстатаваў безумоўную падтрымку народам вышэйшага заканадаўчага органа, у сувязі з чым выказаў меркаванне аб адсутнасці неабходнасці датэрміновых парламенцкіх выбараў. Іх спрабуюць навязаць беларускаму кіраўніцтву апазіцыя і заходнія палітыкі, якія яе падтрымліваюць. Да таго ж прэзідэнт выказаў Нацыянальнаму сходу шэраг пажаданняў: зарыентаваць дзейнасць на прыняцці праграмных законаў і кодэксаў, прывесці дзеючае заканадаўства ў адпаведнасць з Канстытуцыяй; вызначыць канцэпцыю кожнага накірунку заканадаўчай дзейнасці. Усе гэтыя тэзісы надзвычай важныя. У адпаведнасці з імі Нацыянальны сход і плануе сваю работу. Дарэчы, дзелавыя кантакты прэзідэнта з парламентарыямі апошнім часам сталі больш частымі. Прычым узаемадзеянне гэтае даволі станоўча адбіваецца на якасці заканатворчасці. Са свайго боку мы часта накіроўваем у Адміністрацыю Прэзідэнта свае прапановы. Напрыклад, апошнія з іх датычацца ўзаемаадносінаў Рэспублікі Беларусь з Еўрасаюзам і іншымі еўрапейскімі структурамі. Заўважна актывізаваліся і стасункі з урадам. На другім сумесным пасяджэнні палат Нацыянальнага сходу з інфармацыяй аб дзейнасці Савета Міністраў выступаў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг. На спецыяльным пасяджэнні Савета Міністраў члены ўрада адказвалі на нашы пытанні. Мы амаль заўсёды бываем на пасяджэннях Прэзідыума Савета Міністраў, а члены ўрада ўдзельнічаюць у рабоце нашых камісій. Адносіны, на мой погляд, склаліся дзелавыя, даволі канструктыўныя і эфектыўныя. Кажу гэта без перабольшання.

## Дыялог з апазіцыяй

***Чаму пазбягаеце дыялогу з апазіцыяй? Вам што, і пагутарыць няма аб чым?***

(**Жыхар Мінска,** не прадставіўся.)

— Дыялог з апазіцыяй мы вядзём. Але завочны, у сродках масавай інфармацыі. Яе думка па розных аспектах нам вядомая. Наша ёй, мабыць, таксама. І, як пэўную палітычную сілу, апазіцыю мы прызнаём. Яна, аднак, не жадае весці з намі прамы дыялог. Вельмі негатыўна, у штыкі, успрымаюць апазіцыйныя палітыкі любыя рашэнні ўлады, як заканадаўчай, так і выканаўчай. За цэлы год ад апазіцыі не паступіла ніводнай канструктыўнай прапановы, ва ўсялякім выпадку ў Савет Рэспублікі дакладна. У парламенты ж іншых краін пасланняў безліч: увядзіце эмбарга, закрыйце граніцы, спыніце гуманітарную дапамогу, не давайце крэдытаў, інвестыцый. І гэта ўсё ў дачыненні да нашай рэспублікі, свайго народа. Згадзіцеся, цяжка весці шчыры і адкрыты дыялог пра лёс Бацькаўшчыны, любячы яе так дзіўна.

***Працуюць па свайму профілю Шушкевіч, Шарэцкі, Карпенка, Ганчар і іншыя, ці яны наогул не працуюць? Ці плацяць ім грошы як дэпутатам?***

(**А. МАРОЗАЎ,** г. Мінск.)

— Названыя вамі асобы ў Нацыянальным сходзе не працуюць. Яны лічаць сябе дэпутатамі Вярхоўнага Савета XIII склікання. На якія сродкі яны жывуць і ездзяць у замежныя камандзіроўкі, я не ведаю, але гэта выклікае некаторае неўразуменне. Яны збіраюцца асобна, прымаюць рашэнні, лічаць сябе легітымным заканадаўчым органам, хаця, зразумела, ніводзін афіцыйны орган Беларусі іх рашэнні ўсур'ёз не ўспрымае.

## «Польскае» пытанне

***Як вядома, Саветам Рэспублікі адобраны змяненні і дапаўненні ў законы аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь і аб парадку ўезду і выезду з нашай краіны. Цікава было б ведаць, наколькі эфектыўна будуць садзейнічаць папраўкі пашырэнню правоў і свабод беларусаў? Напрыклад, як яны будуць суадносіцца з новымі правіламі ўезду ў суседнюю Польшчу, з якой нас звязваюць гістарычныя і культурныя сувязі, дзе жывуць нашы сваякі, сябры, знаёмыя, партнёры па бізнесу?***

(**Ж. СУКАВІЦЫНА,** г. Мінск.)

— Наш паважаны заходні сусед — Рэспубліка Польшча — увяла з 1998 года новыя правілы перасячэння беларуска-польскай мяжы. З 27 снежня мінулага года ў Польшчы ўступіў у сілу закон аб іншаземцах. Новыя правілы ставяць за мэту вяртаць назад тых, хто імкнецца незаконна перасячы мяжу. Усё гэта зразумела. Беларускі бок толькі ў пэўнай ступені здзіўляе тая акалічнасць, што Польшча вельмі рэзка зрабіла такі крок. Гэта паставіла ў даволі складанае становішча грамадзян Беларусі, а таксама Расіі і іншых дзяржаў СНД. Для вырашэння праблемы неабходны двухбаковыя пагадненні паміж Беларуссю і Польшчай. Наша МЗС працуе ў гэтым накірунку. І мы ў парламенце думаем. У бліжэйшы час, спадзяюся, абодва бакі ўдакладняць пазіцыі і вырашаць пытанне цывілізаваным шляхам. Прыклад паказваюць заходнееўрапейскія краіны, уводзячы бязвізавы праезд. У дзяржавах, якія ўваходзяць у Еўрасаюз, напрыклад, не патрабуюць ад грамадзян ніякіх доказаў таго, ці ёсць у іх грошы для пражывання ў наведваемых краінах.

***Чуў, што праблемы з Польшчай узніклі з-за адсутнасці пагаднення аб рэадмісіі нелегальных мігрантаў. Што перашкаджае нам падпісаць такі дагавор з Польшчай?***

(**В. ВАШКЕВІЧ,** г. Гродна.)

— Пытанне аб рэадмісіі больш складанае, чым сённяшняя праблема. Справа ў тым, што польскі парламент пакуль не жадае прызнаваць Нацыянальны сход Беларусі, таму калі нават пагадненне аб рэадмісіі і будзе падпісана, яно не зможа быць ратыфікавана. Таму, мяркую, за вырашэнне праблемы павінны ўзяцца перш за ўсё прэзідэнты, магчыма, спатрэбіцца іх сустрэча. Павінны таксама быць міжпарламенцкія кантакты паміж Беларуссю і Польшчай, дзе мы маглі б дамовіцца, каб падобныя пагадненні ўсё ж заключаліся, бо гэта ў інтарэсах нашых людзей.

## Вакол праблемы СМІ

***Якая канчатковая рэдакцыя Закона аб друку? Ці будуць пашыраны правы журналістаў? Ці можна звяртацца з прапановамі адносна ўдасканалення закона ў Савет Рэспублікі?***

(**В. ШАЎЧЭНКА,** рэдактар Дубровенскай раённай газеты).

— Закон аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб друку і іншых СМІ» будзе надрукаваны. Не буду яго зараз каменціраваць. Дыскусія ў прэсе на гэты конт была дастаткова вострай і заўважнай. Дапрацоўваўся закон двойчы, але, як кажуць, няма мяжы дасканаласці. Жыццё ўвесь час уносіць свае карэктывы як у планы людзей, так і ў законы. Зразумела, калі ў вас ёсць прапановы, звяртайцеся да нас.

***Наша тэлебачанне асвятляе падзеі вельмі аднабакова. Калі на тэлеэкране з'явіцца плюралізм думак і меркаванняў, плюралізм палітычных фігур?***

(**В. МАРОЗ,** Івацэвіцкі раён).

— Не магу з вамі пагадзіцца. Дзяржаўнае тэлебачанне ў апошні час значна перабудавалася. У пэўнай ступені гэта будзе садзейнічаць плюралізму думак і меркаванняў на блакітным экране. Ды і раней, калі быць шчырым, наш глядач мог сам выбіраць тэлепраграмы. Нагадаю, што ў рэспубліцы ёсць магчымасць прагляду пяці расійскіх тэлеканалаў, жыхары заходніх раёнаў глядзяць польскае тэлебачанне. Акрамя таго ў Беларусі зарэгістравана амаль 200 незалежных тэлерадыёстанцый і кампаній.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

***(Працяг будзе).***

# Мой новы знаёмы — Дзівін

## Вымушана вас расчараваць: гэта не мужчына з экзатычным імем

АЎТОБУС на хвіліну спыніўся, бразнуў дзвярыма і паімчаў далей, пакінуўшы мяне адну на слізкай вясковай вуліцы. Толькі-толькі развіднела, і ў зімовым паўзмроку доўга давялося шукаць патрэбны дом: бляшаныя нумары, прыбітыя да вуглоў, даўно ўжо ў большасці сваёй паржавелі, а рэдкія прахожыя, што трапляліся насустрач, прапаноўвалі замест адраса назваць прозвішча гаспадароў, якога я не ведала. Дзякуй Богу, вуліца, на якой мяне высадзіў аўтобус, была менавіта тая, што трэба, інакш давялося б яшчэ даўжэй блудзіць, бо Дзівін, як параўнала пасля па карце, не намнога меншы за які-небудзь райцэнтр, Сянно, напрыклад...

Нехта сказаў, што, каб добра пазнаць горад, трэба пражыць у ім усё жыццё або пабыць усяго адзін дзень. У Дзівіне я пабыла крыху больш за паўдня, карацей, «не дацягнула» да мінімальнага тэрміну, вызначанага класікам. Але ж і Дзівін — не горад. Хаця і не зусім вёска. У афіцыйных паперах — сяло. Таму можна лічыць, што маё знаёмства з гэтым населеным пунктам на поўдні Беларусі ўсё ж адбылося...

Нават калі б не было пацверджаных мовазнаўцамі варыянтаў аб паходжанні звонкай назвы, можна было б сказаць, што самае прымітыўнае тлумачэнне, якое прыходзіць у галаву, — ад слова «дзіўны» — апраўдвала сябе раней, апраўдвае сябе і сёння. Дзівін сапраўды дзіўны. Дакладней, дзіўны яго заўсёдны стан — нешта такое прамежкавае паміж вёскай і горадам...

Магчыма, калісьці ў старажытнасці, ён быў сапраўды вялікім паселішчам. Ва ўсякім разе, людзі жылі ў гэтых мясцінах з незапамятных часоў: ля возера Любань, што недалёка ад Дзівіна, археолагі знайшлі паселішча бронзавага веку і стаянку эпохі мезаліту і неаліту... Але тады не пісаліся летапісы, а калі прыйшоў час успомніць аб Дзівіне пісьмова (у 1446 годзе), ён ужо значыўся як адно са шматлікіх невялікіх мястэчак у маярацэ Вялікіх Князёў Літоўскіх Каралёў Польскіх...

І ўсё ж быў у Дзівіна свой шчаслівы час: у 1642 годзе ён атрымаў, як самастойны горад, магдэбургскае права. Праўда, ён так і не стаў сапраўдным горадам: магчыма, усяму прычынай знакамітая палеская дрыгва, якая падступала, бывала, пад самыя вокны. Праз сто з лішкам гадоў імперскім указам Дзівін пазбавілі гарадскіх праву, а ў 1795-м імператрыца Кацярына II падаравала яго графу Румянцаву.

Існуе цікавая легенда з тых часоў, вельмі падобная на праўду. Нібыта Сувораву (а вядомы суворыаўскі дуб расце якраз на шляху з Кобрына ў Дзівін) за разгром паўстанцаў на чале з Касцюшкам Кацярына прызначыла чарговую ўзнагароду, і загад аб гэтым быў абнародаваны не дзе-небудзь, а ў Дзівінскай царкве Параскевы Пятніцы, якая дзейнічае і сёння...

У «біяграфіі» Дзівіна, як, пэўна, і ў кожнай, ёсць свае нярадасныя старонкі: быў і голад, ад якога памерла вельмі шмат людзей, услед за голадам — пажар, пасля якога засталося суцэльнае папялішча, потым чарговы ўладальнік стаў прадаваць мястэчка па частках. Пра тое, што Дзівін калісьці быў горадам, ніхто ўжо і не ўспамінаў.

Потым была польская акупацыя, вайна. І зноў Дзівіну выпаў шанц стаць горадам — у 1940-м яго зрабілі райцэнтрам, і пасля вайны пачалося актыўнае будаўніцтва. З'явіліся назвы вуліц, магазіны, рэстаран, аўтастанцыя, — усе атрыбуты раённага гарадка. (Праўда, чамусьці не было ў Дзівіне помніка Леніну. Можа, проста не паспелі?) Але так і не пашчасціла вялікай вёсцы зрабіцца горадам: у жніўні 1959-га Дзівінскі раён у рамках узбуйнення быў расфарміраваны, а Дзівін так і застаўся вялікай вёскай, якую пасля назвалі — «сяло».

У гэтым сяле — каля трыццаці вуліц. Некаторыя людзі жывуць дзесяткі гадоў, так і не ведаючы адзін аднаго. Зусім як у горадзе.

Але на некаторых вуліцах жывуць суседзі з аднолькавымі прозвішчамі. І мае кожны з іх сваю мянушку — каб не блыталі. Зусім як у вёсцы.

Працуюць вялікія светлыя магазіны, адчынены рэстаран, ва ўтульнай зале якога абедаюць рэдкія наведвальнікі, па вуліцы ходзяць ахоўнікі парадку... Зусім як у горадзе.

Але на кожнага новага чалавека, які апрануты не з украінскага базара і гаворыць не на мясцовай мове, прадаўшчыцы ў магазіне і афіцыянткі ў рэстаране глядзяць з непадробнай цікавасцю і шэпчуцца ў яго за спінай: хто б гэта мог быць? Зусім як у вёсцы.

У Дзівіне вялікая сярэдняя школа, школа-інтэрнат, пякарня, бальніца, некалькі невялікіх прадпрыемстваў — філіялы кобрынскіх ці брэсцкіх. Зусім як у горадзе.

Але нумары, якімі калісьці былі пазначаны ўсе дамы, даўно паржавелі, прыдуманыя колішнім раённым начальствам назвы вуліц даўно забытыя. Адзіны і самы надзейны сродак перамяшчэння з аднаго канца вёскі ў другі (а гэта некалькі кіламетраў) — веласіпед. На ім нават зімой па Дзівіну раз'язджаюць і старыя, і малыя. Зусім як у вёсцы...

Што і казаць, дзіўны ён, гэты Дзівін...

Дзіўны ён, гэты Дзівін! «У нас — ужо амаль Украіна» — гавораць мясцовыя. Заўжды з прыкрасцю чую падобнае, калі бываю на памежжы... «У нас тут ужо, лічы, Польшча... Тут ужо амаль Літва... Мы ўжо амаль Расія...» Гавораць людзі пра гэта з нейкім самапрыніжальным гонарам, нібы ўжо і адхрышчваюцца ад Беларусі. Увесь час узнікае думка: ці то менталітэт у нас такі, ці то падзялілі калісьці няправільна, захапіўшы пад нашу краіну кавалкі чужых тэрыторый. Пэўна, усё ж менталітэт: ну не магу я ўявіць паляка, які дзе-небудзь на Беласточчыне самаздаволена гаворыць: «Тут у нас — амаль Беларусь...»

Дзівін — на жаль, не выключэнне. Да мяжы з Украінай — рукой падаць, да вялікай украінскай вёскі Самары — восем кіламетраў, у чатыры разы бліжэй, чым да Кобрына. У Самарах — вялікі базар, дзе можна купіць таннае сала (як у выглядзе парасяці, так і гатовае, на вагу), алей, дываны. Па цэнтральнай вуліцы Дзівіна ў суботу ранкам імчаць машыны ў бок мяжы, у нядзелю ўвечары — назад: навакольныя, дый далёкія «чаўнакі» едуць на кірмаш і з кірмашу. Самі ж дзівінцы аддаюць перавагу ўсё тым жа веласіпедам ці матаблокам: за іх на мяжы не трэба плаціць украінскім мытнікам «экалагічны ўзнос» — дзесяць долараў, як за машыну. Праўда, ці не кожны мясцовы жыхар ведае аб існаванні яшчэ адной дарогі — у лесе, па якой нават на машыне можна праскочыць у суседнюю краіну бясплатна. Праўда, з нядаўняга часу, калі мяжу сталі ахоўваць і беларускія пагранічнікі, гэта больш праблематычна.

У Самары дзівінцы едуць не толькі купляць. Самі вязуць на продаж трыкатаж, хлеб. Купляе кабета ў магазіне латок хлеба — у скрынку яго на багажнік веласіпеда — і за мяжу. Прадасць там крыху даражэй, чым купіла за любыя грошы (на памежжы ў пашане і рублі, і грыўны), — вось і прыбытак. Некалькі паездак — і можна купіць у Самарах прыгожы танны дыван. Праўда, каб перавезці набытак дадому, давядзецца адмыслова скласці яго «канвертам», каб не заўважылі пагранічнікі. Але тыя на мясцовых не звяртаюць пільнай увагі: Дзівін жа — амаль Украіна...

Дзіўны ён, гэты Дзівін! Так, ва ўсякім разе, здасца кожнаму, хто вырас у Цэнтральнай Беларусі і ўпершыню трапіў на Палессе. Зусім іншыя людзі — гэткія ж прыветлівыя, але па-свойму, нават выглядаюць інакш. Зусім іншыя ўзаемаадносіны. Але галоўнае — мова. Ах, якая мова! Украінскія, беларускія, польскія, рускія, але найбольш уласныя, палескія слоўцы, і ўсё гэта гучнай скорагаворкай...Давялося доўга такі пагаварыць з Верай Васільеўнай Казакевіч, сямідзесяцігадовай бабуляй. Спачатку я ніякавела: не прывыкла я з бабулямі па-руску размаўляць, а тут давялося, бо бачыла, што Вера Васільеўна разумее далёка не ўсё, што гавару ёй на «стаўбцоўскім» дыялекце. Усё ж у рэшце рэшт знайшлі мы ўзаемаразуменне: я пыталася па-руску, а Вера Васільеўна расказвала на сваёй, дзівінскай мове. Пра тое, як у вайну не ведалі, якіх партызанаў больш баяцца, таму хаваліся ад усіх (былі тут і мадзьяры, і ўласаўцы, і бендэраўцы, і камуністы). Як Дзівін быў райцэнтрам, і аўтобусы на Кобрын і Брэст ішлі кожную гадзіну (не тое што цяпер: па два разы на дзень, і то не заўсёды). Як да меліярацыі вясной замест вуліц паўсюдна ляжалі кладкі, а вада падступала пад самыя вокны (а цяпер нават ад калісьці велікаватай рэчкі застаўся толькі раўчук). Як у калгасе багаты ўраджай агуркоў засольвалі ў бочках і апускалі іх пад лёд, у возера (і ніхто нават не думаў, каб выцягнуць тую бочку для сябе). Як «за Польшчай» бацька вучыў іх, яшчэ малых: хоць вы і вучыцеся ў польскай школе, памятайце, што вы не палякі. («А хто?» — асцярожна папыталася я. «Вядома, украінцы», — упэўнена адказала Вера Васільеўна). Як яна ў 77-м адмовілася забіраць новы пашпарт, бо там ёй напісалі: нацыянальнасць — беларуска, а яна ж памятала той бацькаў наказ. Даведаўшыся, што ў новым пашпарце няма нацыянальнасці, Вера Васільеўна адабральна зазначыла: «Ну вось і правільна. Жывём жа ўсе на Беларусі. І якая розніца хто ты — паляк ці ўкраінец?» Яна гаварыла, а я прагна лавіла такія нязвыклыя па гучанню словы і каторы раз успамінала пра забыты ў Мінску дыктафон.

У хаце, дзе давялося быць, усё стракацела ад палескіх вышыванак. «Так у кожным доме», — сказалі мне гаспадары. І я нават ні кроплі не засумнявалася, бо ў Дзівіне, цывілізаваным Дзівіне, які ледзь не стаў горадам, дагэтуль зімовымі вечарамі збіраюцца на вячоркі, спяваюць, прадуць, вышываюць...

Я ледзь было не спакусілася застацца нанач, каб папрысутнічаць на такіх вячорках. Але давялося ехаць у той жа дзень: назаўтра аўтобус не ішоў...

І хоць змерзла ў Кобрыне на вакзале, і хоць наперадзе была доўгая ноч у цягніку скрозь цемру і снег, на душы было спакойна-радасна. Бо на карце маіх вандровак па краіне з'явілася ў самым нізе яшчэ адна кропка — Дзівін. Няхай сабе амаль Украіна, але ўсё яшчэ мая Беларусь.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**
*Кобрынскі раён.*



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*СІТУАЦЫЯ*

# ЧОРНЫ РАК

У гонар 40-годдзя Вялікай Перамогі ў саўгасе імя Чарнышова залажылі прамысловы сад. Самы вялікі ў Баранавіцкім раёне. Галоўным над яблынямі, слівамі, парэчкамі паставілі С. Мяліка, спецыяліста-садавода з вышэйшай адукацыяй. Менавіта Мялік ездзіў у Малдавію і ва Украіну за пасадачным матэрыялам. Адным словам, гаспадарыў у гэтым садзе Сяргей Фёдаравіч.

Амаль два гады таму саўгас узначаліў Мікалай Івашка. Паміж садаводам і новым дырэктарам неўзабаве ўзніклі непаразуменні, і праз нейкі час Мяліку прыйшлося пакінуць сваю пасаду і звольніцца па ўласнаму жаданню. Праўда, перад гэтым ён парушыў працоўную дысцыпліну, і гэты факт зафіксавалі ў прафкаме.

Трэба адразу ж агаварыцца: Мялік не анёл, а мае свой гонар ці, як кажуць, нораў. Вядома, каб ён праявіў крыху гібкасці, то не застаўся б без працы. А справа ўскладнілася яшчэ і тым, што да горада 35 км, а дом Мялік пабудаваў у саўгасе, у якім працуе і яго жонка. Чалавек аказаўся прывязаным да вёскі, таму і вырашыў Сяргей Фёдаравіч узяць 35 га зямлі і стаць фермерам-садаводам. Але зямлі яму не далі каля дома, а прапанавалі за 9 км, з запаснога фонду райвыканкама. Браць жа надзел далёка ад жылля не выпадае. Каб далі Мяліку зямлю, перад мясцовай уладай хадайнічаў дырэктар Беларускага НДІ пладаводства В. Самусь.

Але мара пасадзіць свой сад не стала явай, і пачаў Мялік шукаць праўду, пісаць у высокія інстанцыі.

Сяргей Фёдаравіч паказваў мне саўгасны сад, які займае велізарную плошчу, ад небасхіла да небасхіла, і выказваў шкадаванне, што сад пачалі карчаваць. І сапраўды, тысячы дрэў ляжалі на снезе, вырваныя з каранямі. Падазроная атрымлівалася сітуацыя. Саду ўсяго 14 гадоў, а яго нішчаць.

Са слоў Мяліка далёка не ўсё было ясна. Цень падаў на дырэктара саўгаса, які нібыта самавольна пачаў выкарчоўваць яблыні.

Калі я папрасіў Мікалая Уладзіміравіча растлумачыць сітуацыю, дырэктар паказаў акт на прадмет абследавання прамысловага сада. Камісія склала дакумент 21 жніўня 1996 года і ў ім гаварылася, што было абследавана 588 гектараў саду. Камісія прыйшла да высновы, што сад моцна заражаны чорным ракам, а асобныя квадраты хвароба паразіла на 95—100 працэнтаў. Было прынята рашэнне правесці рэканструкцыю прамысловага саду на плошчы 174,2 га. Акт падпісалі: галоўны аграном Мінсельгасхарча РБ Н. Барэль, вядомы ўжо нам В. Самусь і іншыя адказныя асобы.

Я бачыў гэтыя яблыні з чорнымі пакручанымі ствaламі. Чаму хвароба так моцна паразіла сад? Дырэктар саўгаса сказаў, што вінаваты былы садавод, які прывёз ужо заражаныя саджанцы, а той у сваю чаргу ківаў на кіраўніцтва гаспадаркі, якое не апрацоўвала дрэвы хімікатамі. Але, відаць, найбольш праўдападобная версія, згодна з якой саджанцы з паўднёвых рэгіёнаў у нашых кліматычных умовах адчуваюць сябе не зусім утульна. Хварэюць. Цяпер спецыялісты прыйшлі да высновы, што саджанцы павінны быць мясцовымі, з беларускіх гадавальнікаў.

Але размова наша далей прыме крыху іншы накірунак. Тут, як аказалася, страшны не гэты рак.

Паўстае пытанне: для чаго пасадзілі такі вялікі сад? Ва ўсякім разе, не для таго, каб любавацца, як ён цвіце, а каб мець прыбытак.

Мне паказалі эканамічныя выкладкі па саду. Лічбы гавораць лепш за словы. Страты і страты. У 1990 годзе яны склалі 607 тысяч рублёў, у 1991 г. — 395 тысяч і г. д. З году ў год. Рэкордным у гэтым плане быў 1992 год — тады страты склалі 2 млн. 804 тысячы савецкіх рублёў. У гэтым жа годзе на будаўніцтва сховішча для яблыкаў было затрачана яшчэ 10 млн. 240 тысяч.

А вось прыбытак даў 1996 год. Выручылі за садавіну 1 млрд. 506 млн., а затрацілі на зарплату, абрэзку, падкормку, хімікаты і г. д. 1 млрд. 412 млн. — у выніку прыбытак быў усяго 94 млн. І гэта даход ад 237 га яблынь, 98 га сліў, алычы і вішні ды 70 га парэчак!

Вось такая сітуацыя.

Навошта было валтузіцца з гэтым садам?

Трэба было гектары, што пад садам, засеяць збожжавымі, і пры сярэднім ураджаі 25 ц/га выручыць за збожжа 4 млрд. 500 млн. А затраты тут былі б, улічваючы высокую механізацыю іх апрацоўкі, непараўнальна меншымі, чым затраты на сад.

Ды і наогул, калі б зямля пуставала, то хоць страт не было б і каровы пашу мелі б. Сёлета ў саўгасе сабралі 35 тон яблыкаў. Для саду такіх памераў лічба смешная. Калі ўсё прааналізаваць, то міжволі прыходзіш да высновы, што за ўсім гэтым хаваецца першапрычына, якая правакуе такую сітуацыю. І першапрычына тут — безгаспадарчасць. Бо які гаспадар вытрымаў бы 14 гадоў страт? А потым яшчэ пачаць рэканструкцыю саду, фактычна пайсці па другому кругу. У гэтым выпадку страты нёс калектыў саўгаса, дзяржава, а не канкрэтны чалавек. Адсутнасць гаспадара — якраз тая злаякасная пухліна, якая паразіла калі не ўсю калгасна-саўгасную сістэму, то большасць гаспадарак.

І гэта яшчэ не ўсё.

С. Мялік, калі паказваў сад, то адзначыў, што невядома куды прапала 2 км сеткі, якой быў агароджаны сад. То была салідная агароджа. Металічныя прамавугольнікі з нацягнутай сеткай паміж бетоннымі слупамі.

Дырэктар растлумачыў, што сетка не прапала, а ёй абгарадзілі школу, майстэрні, склад...

— А вось куды знікла 7 км агароджы, то трэба спытаць у Мяліка, — сказаў М. Івашка. — Ён тады быў тут кіраўніком.

Сёння ўжо няма з каго спытаць.

У чытача можа скласціся ўражанне, што ад садоў увогуле толку мала і яны не патрэбны.

Недалёка ад саўгаса імя Чарнышова знаходзіцца калгас «Перамога», у якім ёсць два невялікія сады. Адзін займае 15 гектараў, а другі — 18. Дык вось, з 18 га было сабрана 160 тон яблыкаў і груш. Прыбытак склаў 250 млн. рублёў.

Справа ў тым, што у «Перамозе» самы звычайны беларускі сад. Тут яблыні мясцовых, праверaных часам гатункаў. І памеры саду дазваляюць упраўляцца з ім сваімі сіламі.

Учарашняя гігантаманія сёння аказалася тым кавалкам, які цяжка не толькі праглынуць, але і перажаваць.

У канфлікце былога садавода з сённяшнім кіраўніцтвам саўгаса шмат асабістага. А гэта перашкаджае рэальна паглядзець на рэчы. Апаненты адзін на аднаго збіраюць кампрамат, падключаюць праваахоўныя органы.

Стараючыся быць максімальна аб'ектыўным і не разменьваючыся на дробязі, скажам: ад усяго гэтага кампрамату дрэнна патыхае. Калі былі парушэнні, дык чаму не паднялі шум адразу, а ўспомнілі пра іх толькі праз нейкі час, калі «наступілі на хвост»? Што, кіламетры агароджы выкралі за адну ноч? Вядома ж, не. Я ўпэўнены: калі б хоць адно звяно выцягнулі з уласнага плота каго б там ні было, лямант стаяў бы на ўсе Петкавічы і Ішкалдзь. А так укралі кіламетры — і ніхто ў званы не званіў.

Але вернемся да зямлі, якой не атрымаў С. Мялік. У часы Кебіча Вярхоўны Савет прыняў закон, у адпаведнасці з якім вяртанне зямлі былым уласнікам не дапускаецца. Тым не меней, людзі яшчэ захоўваюць дакументы, царскія і польскія, якія сведчаць, што праблема зямлі яшчэ не вырашана. І сёй-той чакае, што сітуацыя зменіцца і зямля вернецца да свайго гаспадара. Ва ўсякім разе, на гэта ўказаў дырэктар саўгаса.

Але я не думаю, што гэты факт паўплываў на рашэнне сходу рабочых саўгаса 20 лістапада, на якім адмовілі Мяліку ў зямельным надзеле. Не з'яўлялася рашаючым фактарам і прысутнасць на сходзе старшыні райвыканкама М. Гулюка.

І не трэба тут шукаць нейкую падаплёку ці злосны намер. Проста час фермера, у шырокім разуменні гэтага слова, яшчэ не настаў. У нас яшчэ гавораць, што альтэрнатывы калгасам няма.

Чуў я ў саўгасе і з'едлівую заўвагу: маўляў, успомніў Мялік пра зямлю, калі без работы застаўся.

І добра, што захацеў мець зямлю, захацеў быць пры справе. У Мяліка ёсць сям'я, ёсць дом, і ў яго няма выбару. Пераступіць цераз сваё «Я», сваю праўду і вярнуцца назад у саўгас, відавочна, ён не захоча, а наконт сваёй зямлі таксама нічога «не свеціць».

Ды, шчыра кажучы, калі б і далі жаданыя 35 гектараў, то, каб закласці на іх сад, патрэбен капітал. І няма гарантыі, што фінансавыя затраты абернуцца прыбыткам. Чорны рак заўсёды побач.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ОРГАНАХ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 11 лістапада 1997 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 19 лістапада 1997 года.*

Гэты Закон вызначае прававыя асновы, прынцыпы, асноўныя задачы і напрамкі дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь*.

**Глава 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

**Артыкул 1.Органы дзяржаўнай бяспекі і іх прызначэнне**

Органы дзяржаўнай бяспекі з'яўляюцца састаўной часткай сістэмы забеспячэння нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь і забяспечваюць у межах прадастаўленых ім паўнамоцтваў бяспеку асобы, грамадства і дзяржавы ад унутраных і знешніх пагроз.

Кіраўніцтва дзейнасцю органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляюць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у межах паўнамоцтваў, дэлегаваных яму Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Сістэма органаў дзяржаўнай бяспекі**

Органы дзяржаўнай бяспекі ўтвараюць адзіную цэнтралізаваную сістэму, у якую ўваходзяць:

Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь;

упраўленні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь па абласцях (тэрытарыяльныя органы);

упраўленне ваеннай контрразведкі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

Упраўленні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь па абласцях і ўпраўленне ваеннай контрразведкі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь знаходзяцца ў падпарадкаванні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

Органы дзяржаўнай бяспекі маюць у сваім падпарадкаванні навучальныя ўстановы, ваенна-медыцынскія, аздараўленчыя ўстановы, воінскія часці, падраздзяленні спецыяльнага прызначэння і іншыя падраздзяленні.

Органы дзяржаўнай бяспекі і падпарадкаваныя ім навучальныя ўстановы, ваенна-медыцынскія, аздараўленчыя ўстановы і воінскія часці з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі, маюць пячаці з відарысам Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, рахункі ў банках.

У органах дзяржаўнай бяспекі і падпарадкаваных ім падраздзяленнях забараняецца стварэнне і дзейнасць палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, якія дамагаюцца палітычных мэтаў.

**Артыкул 3. Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь**

Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, які ажыццяўляе ў межах сваіх паўнамоцтваў кіраванне ў сферы забеспячэння бяспекі асобы, грамадства і дзяржавы.

Арганізацыя дзейнасці Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь вызначаецца Палажэннем аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, якое зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь узначальвае Старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, які назначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 4.Прававая аснова дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі**

Органы дзяржаўнай бяспекі ў сваёй дзейнасці кіруюцца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, гэтым Законам і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляецца таксама ў адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5. Прынцыпы дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі**

Дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляецца на прынцыпах:

законнасці;

павагі і захавання правоў і свабод асобы;

гуманізму;

адзінства сістэмы органаў дзяржаўнай бяспекі і цэнтралізацыі кіравання імі;

спалучэння галосных і негалосных метадаў і сродкаў дзейнасці;

незалежнасці ад дзейнасці палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў.

**Артыкул 6. Захаванне правоў і законных інтарэсаў фізічных і юрыдычных асоб**

У дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі не дапускаецца абмежаванне правоў і свабод асобы, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных законам Рэспублікі Беларусь.

Асоба, якая лічыць, што органамі дзяржаўнай бяспекі ці іх службовымі асобамі парушаны яе правы і свабоды, мае права абскардзіць іх дзеянні ў вышэйстаячы орган Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, пракуратуру або суд.

Юрыдычныя і фізічныя асобы маюць права атрымліваць растлумачэнні наконт абмежавання іх правоў і свабод ад органаў дзяржаўнай бяспекі.

Атрыманыя ў працэсе дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі звесткі аб прыватным жыцці не могуць паведамляцца органамі дзяржаўнай бяспекі каму б там ні было без пісьмовай згоды грамадзяніна, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

У выпадку парушэння супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай бяспекі законных правоў і свабод асобы кіраўнік адпаведнага органа дзяржаўнай бяспекі абавязаны прыняць меры па абароне і аднаўленню гэтых правоў і свабод, пакрыццю прычыненага ўрону і прыцягненню вінаватых да ўстаноўленай заканадаўствам Рэспублікі Беларусь адказнасці.

**Артыкул 7. Абарона звестак аб органах дзяржаўнай бяспекі**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія прымаюцца на ваенную службу (работу) у органы дзяржаўнай бяспекі, а таксама дапускаюцца да звестак, што складаюць дзяржаўныя сакрэты ў дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі, праходзяць працэдуру афармлення допуску да ўказаных звестак, калі іншы парадак не прадугледжаны заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, дапушчаныя да звестак, што складаюць дзяржаўныя сакрэты ў дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі, у выпадку іх выдавання нясуць адказнасць, прадугледжаную заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Дакументы і матэрыялы, якія змяшчаюць ахоўваемыя звесткі аб кадравым саставе органаў дзяржаўнай бяспекі, аб асобах, якія аказваюць ім садзейнічанне на канфідэнцыяльнай аснове, а таксама аб арганізацыі, тактыцы, метадах і сродках ажыццяўлення контрразведвальнай, разведвальнай і аператыўна-вышуковай дзейнасці, падлягаюць захоўванню ў архівах Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

Матэрыялы архіваў органаў дзяржаўнай бяспекі, якія ўяўляюць гістарычную і навуковую каштоўнасць, рассакрэчваюцца і перадаюцца на захоўванне ў дзяржаўныя архівы Рэспублікі Беларусь у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Глава 2. АСНОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ І НАПРАМКІ ДЗЕЙНАСЦІ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ**

**Артыкул 8. Асноўныя задачы органаў дзяржаўнай бяспекі**

Асноўнымі задачамі органаў дзяржаўнай бяспекі з'яўляюцца:

папярэджанне, выяўленне і спыненне разведвальнай і іншай дзейнасці спецыяльных службаў і арганізацый замежных дзяржаў, а таксама некаторых асоб, накіраванай на прычыненне ўрону бяспецы Рэспублікі Беларусь;

здабыванне разведвальнай інфармацыі аб пагрозе бяспецы Рэспублікі Беларусь у палітычнай, эканамічнай, ваеннай, экалагічнай, інфармацыйнай і гуманітарнай сферах;

абарона незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, яе канстытуцыйнага ладу, эканамічных інтарэсаў, прамысловага, ваеннага і навукова-тэхнічнага патэнцыялу;

барацьба ў межах сваёй кампетэнцыі з тэрарызмам, арганізаванай злачыннасцю, карупцыяй, нелегальнай міграцыяй, незаконным абаротам наркатычных сродкаў, зброі, ядзерных матэрыялаў і іх кампанентаў, а таксама матэрыялаў, якія падлягаюць экспартнаму кантролю;

папярэджанне, выяўленне і спыненне злачынстваў, расследаванне якіх аднесена актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь да ведання органаў дзяржаўнай бяспекі;

кантроль за забеспячэннем абароны дзяржаўных сакрэтаў у дзяржаўных органах, на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях незалежна ад формаў уласнасці, а таксама каардынацыя гэтай дзейнасці;

забеспячэнне дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый урадавай і аператыўнай сувяззю, а таксама арганізацыя і забеспячэнне крыптаграфічнай і інжынерна-тэхнічнай бяспекі шыфраванай, засакрэчанай і кадзіраванай сувязі ў Рэспубліцы Беларусь і яе ўстановах за мяжой, ажыццяўленне дзяржаўнага кантролю за гэтай дзейнасцю.

Забараняецца прыцягваць органы дзяржаўнай бяспекі для вырашэння задач, не прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі**

Асноўнымі напрамкамі дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі з'яўляюцца:

контрразведвальная дзейнасць;

разведвальная дзейнасць;

барацьба са злачыннасцю;

арганізацыя ўрадавай і аператыўнай сувязі.

Дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі, метады і сродкі, якія прымяняюцца імі, не павінны прычыняць урон жыццю і здароўю грамадзян, маёмасці фізічных і юрыдычных асоб, а таксама наносіць шкоду навакольнаму асяроддзю.

Звесткі аб арганізацыі, тактыцы, метадах і сродках ажыццяўлення контрразведвальнай і разведвальнай дзейнасці складаюць дзяржаўную тайну.

**Артыкул 10. Контрразведвальная дзейнасць**

Контрразведвальная дзейнасць — гэта дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі ў межах сваіх паўнамоцтваў па папярэджанню, выяўленню і спыненню разведвальнай і іншай дзейнасці спецыяльных службаў і арганізацый замежных дзяржаў, а таксама некаторых асоб, накіраванай на прычыненне ўрону бяспецы Рэспублікі Беларусь.

Падставамі для ажыццяўлення органамі дзяржаўнай бяспекі контрразведвальнай дзейнасці з'яўляюцца:

наяўнасць даных аб прыметах разведвальнай і іншай дзейнасці спецыяльных службаў і арганізацый замежных дзяржаў, а таксама некаторых асоб, накіраванай на прычыненне ўрону бяспецы Рэспублікі Беларусь;

неабходнасць забеспячэння бяспекі аб'ектаў абароннага комплексу, транспарту і сувязі, іншых стратэгічных аб'ектаў, а таксама бяспекі прыярытэтных навуковых распрацовак;

неабходнасць забеспячэння абароны звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну;

неабходнасць вывучэння (праверкі) асоб, якія аказваюць (аказвалі) садзейнічанне органам дзяржаўнай бяспекі на канфідэнцыяльнай аснове;

забеспячэнне належных умоў для дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі і іх супрацоўнікаў.

Парадак прымянення негалосных метадаў і сродкаў пры ажыццяўленні контрразведвальнай дзейнасці вызначаецца Законам Рэспублікі Беларусь «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці» і нарматыўнымі актамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11. Разведвальная дзейнасць**

Разведвальная дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляецца ў мэтах атрымання інфармацыі аб знешніх пагрозах нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, іншых звестак разведвальнага характару для рэалізацыі інтарэсаў дзяржавы, а таксама для абароны фізічных і юрыдычных асоб Рэспублікі Беларусь за мяжой ад проціпраўных замахаў.

Разведвальная дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляецца праз:

здабыванне і апрацоўку інфармацыі аб закранаючых інтарэсы Рэспублікі Беларусь рэальных і магчымых дзеяннях, планах і намерах дзяржаў, юрыдычных і фізічных асоб;

аказанне садзейнічання дзяржаўным органам у ажыццяўленні мераў, накіраваных на забеспячэнне нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, рэалізацыі інтарэсаў дзяржавы.

Разведвальная інфармацыя прадстаўляецца Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, а па яго даручэнню — іншым дзяржаўным органам.

Парадак і ўмовы ўзаемадзеяння разведвальных падраздзяленняў органаў дзяржаўнай бяспекі, Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь вызначаюцца сумеснымі нарматыўнымі актамі.

Парадак правядзення разведвальных мерапрыемстваў, выкарыстання негалосных метадаў і сродкаў пры ажыццяўленні разведвальнай дзейнасці вызначаецца нарматыўнымі актамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Барацьба са злачыннасцю**

Органы дзяржаўнай бяспекі ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па папярэджанню, выяўленню, спыненню і раскрыццю тэрарыстычнай дзейнасці, арганізаванай злачыннасці, карупцыі, нелегальнай міграцыі, незаконнага абароту наркатычных сродкаў, зброі, ядзерных матэрыялаў і іх кампанентаў, а таксама матэрыялаў, якія падлягаюць экспартнаму кантролю, іншых злачынстваў, дазнанне і папярэдняе следства па якіх аднесены заканадаўствам Рэспублікі Беларусь да іх ведання, а таксама па папярэджанню, выяўленню і спыненню дзейнасці незаконных узброеных фарміраванняў, злачынных груп, некаторых асоб і грамадскіх аб'яднанняў, якія ставяць сваёй мэтай насільнае звяржэнне або змяненне канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь.

У барацьбе са злачыннасцю органы дзяржаўнай бяспекі ва ўстаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку ўзаемадзейнічаюць з іншымі праваахоўнымі органамі.

Дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі ў сферы барацьбы са злачыннасцю ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 13. Урадавая і аператыўная сувязь**

Урадавая (тэлефонная і дакументальная) і аператыўная (тэлефонная) сувязь з'яўляюцца спецыяльнымі сістэмамі электрычнай сувязі, якія забяспечваюць сакрэтнасць інфармацыі, што перадаецца па іх.

Урадавая сувязь арганізуецца ў інтарэсах дзяржаўных органаў.

Аператыўная сувязь арганізуецца ў інтарэсах праваахоўных органаў.

Падраздзяленні ўрадавай сувязі органаў дзяржаўнай бяспекі забяспечваюць дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі ўрадавай і аператыўнай сувяззю, а таксама арганізуюць дзейнасць рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый па забеспячэнню крыптаграфічнай і інжынерна-тэхнічнай бяспекі шыфраванай, засакрэчанай і кадзіраванай сувязі ў Рэспубліцы Беларусь і яе ўстановах за мяжой, ажыццяўляюць дзяржаўны кантроль за гэтай дзейнасцю.

Прынцыпы арганізацыі і парадак выкарыстання ўрадавай і аператыўнай сувязі вызначаюцца актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Глава 3. ПАЎНАМОЦТВЫ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ**

**Артыкул 14. Правы органаў дзяржаўнай бяспекі**

Органы дзяржаўнай бяспекі, а таксама ўпаўнаважаныя імі службовыя асобы маюць права:

ажыццяўляць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы;

ажыццяўляць пранікненне ў спецыяльныя службы і арганізацыі замежных дзяржаў, якія праводзяць разведвальную і іншую дзейнасць, накіраваную на прычыненне ўрону бяспецы Рэспублікі Беларусь, а таксама ў злачынныя групы;

ажыццяўляць дазнанне і папярэдняе следства па справах аб злачынствах, аднесеных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь да ведання органаў дзяржаўнай бяспекі, мець і выкарыстоўваць следчыя ізалятары;

выкарыстоўваць па дагавору або вуснаму пагадненню памяшканні (службовыя і жылыя) дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад формаў уласнасці, а таксама грамадзян для забеспячэння службовай дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі;

устанаўліваць на канфідэнцыяльнай аснове адносіны супрацоўніцтва з асобамі, якія далі на тое згоду;

уваходзіць бесперашкодна, пры неабходнасці з пашкоджаннем запорных устройстваў, у любы час сутак у жылыя і іншыя памяшканні грамадзян, на прыналежныя ім зямельныя ўчасткі, у памяшканні і на тэрыторыю прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад формаў уласнасці і аглядаць іх пры праследаванні асоб, якія падазраюцца ва ўчыненні злачынства, ці пры наяўнасці дастатковых падстаў меркаваць, што там учыняецца або ўчынена злачынства, дазнанне і папярэдняе следства па якім заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аднесена да ведання органаў дзяржаўнай бяспекі, ці знаходзіцца асоба, якая скрылася ад органаў дазнання, следства або суда, ці пры правядзенні неадкладных аператыўна-вышуковых або следчых дзеянняў, а таксама калі ёсць дастатковыя падставы меркаваць, што ўчыняецца або ўчынена злачынства, якое ставіць пад пагрозу жыццё або здароўе грамадзян, з далейшым паведамленнем аб гэтым пракурора на працягу дваццаці чатырох гадзін;

правяраць у грамадзян і службовых асоб дакументы, якія сведчаць асобу, калі ёсць падставы падазраваць іх ва ўчыненні злачынстваў, аднесеных актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь да ведання органаў дзяржаўнай бяспекі, ажыццяўляць затрыманне такіх асоб;

ажыццяўляць адміністрацыйнае затрыманне асоб, якія ўчынілі правапарушэнні, звязаныя са спробай пранікнення і пранікненнем на спецыяльна ахоўваемыя тэрыторыі і аб'екты, а таксама правяраць у гэтых асоб дакументы, што сведчаць іх асобу, атрымліваць ад іх тлумачэнні, ажыццяўляць іх асабісты дагляд, дагляд і адабранне іх рэчаў і дакументаў у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

уносіць у дзяржаўныя органы, на прадпрыемствы, ва ўстановы і ў арганізацыі, а таксама ў грамадскія аб'яднанні абавязковыя для выканання прадстаўленні аб устараненні прычын і ўмоў, якія спрыяюць рэалізацыі пагроз дзяржаўнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, учыненню злачынстваў, дазнанне і папярэдняе следства па якіх аднесены актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь да іх ведання;

атрымліваць бязвыплатна ад дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад формаў уласнасці і грамадскіх аб'яднанняў інфармацыю, неабходную для выканання ўскладзеных на органы дзяржаўнай бяспекі задач; мець доступ да іх інфармацыйных сістэм і баз даных ва ўстаноўленым актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь парадку;

атрымліваць у органах, якія ведаюць размеркаваннем і прызначэннем радыёчастот, палосы радыёчастот для выключнага выкарыстання іх радыёсродкамі ўрадавай і аператыўнай сувязі;

выкарыстоўваць у выпадку неабходнасці ў службовых мэтах сродкі сувязі, якія належаць дзяржаўным органам, прадпрыемствам, установам і арганізацыям незалежна ад формаў уласнасці, а таксама грамадскім аб'яднанням і грамадзянам. Па патрабаванню ўладальнікаў сродкаў сувязі органы дзяржаўнай бяспекі ва ўстаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку пакрываюць панесеныя імі пры гэтым расходы ці прычынены ўрон;

выкарыстоўваць у выпадках, якія не церпяць адкладу, транспартныя сродкі, што належаць прадпрыемствам, установам і арганізацыям незалежна ад формаў уласнасці, грамадскім аб'яднанням і грамадзянам (за выключэннем транспартных сродкаў, якія заканадаўствам Рэспублікі Беларусь або міжнароднымі дагаворамі вызвалены ад такога выкарыстання), для прадухілення злачынстваў, праследавання і затрымання асоб, якія ўчынілі злачынствы або падазраюцца ў іх учыненні, дастаўкі грамадзян, што маюць патрэбу ў тэрміновай медыцынскай дапамозе, у лячэбныя ўстановы, а таксама для праезду да месца здарэння. Па патрабаванню ўладальнікаў транспартных сродкаў органы дзяржаўнай бяспекі ва ўстаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку пакрываюць ім расходы ці прычынены ўрон;

праводзіць даследаванні, прыцягваць экспертаў і спецыялістаў для атрымання заключэнняў і кансультацый, неабходных для вырашэння задач, якія стаяць перад органамі дзяржаўнай бяспекі;

вырабляць і выкарыстоўваць у мэтах легендавання асобы супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі, ведамаснай прыналежнасці іх падраздзяленняў, памяшканняў і транспартных сродкаў дакументы іншых дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый;

прыцягваць па ўзгадненню з начальнікамі органаў унутраных спраў работнікаў міліцыі для зашыфроўкі праводзімых спецыяльных мерапрыемстваў або для забеспячэння выканання заданняў органаў дзяржаўнай бяспекі;

весці аператыўны ўлік асоб, якія ўчынілі дзяржаўныя злачынствы і правяраюцца па падазрэнню ва ўчыненні такіх злачынстваў;

заключаць дагаворы з міністэрствамі, іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, непасрэдна з аб'яднаннямі, прадпрыемствамі і арганізацыямі незалежна ад формаў уласнасці на пастаўку спецтэхнікі, сродкаў сувязі, узбраення, аўтатранспарту, ваеннай тэхнікі, камплектуючых вузлоў і дэталяў да іх, ваенна-тэхнічнай маёмасці і іншых матэрыяльных сродкаў у межах выдзеленых для гэтых мэтаў сум з рэспубліканскага бюджэту і атрымліваць ад іх звесткі, якія датычацца выканання імі дагаворных абавязацельстваў па пастаўках;

забараняць або прыпыняць пры выяўленні парушэнняў работу са звесткамі, якія складаюць дзяржаўныя сакрэты, у дзяржаўных органах, на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях незалежна ад формаў уласнасці да ўстаранення гэтых парушэнняў;

ажыццяўляць кантроль у межах сваёй кампетэнцыі за выкарыстаннем на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь выпраменьваючых радыёэлектронных сродкаў любога прызначэння і забараняць выкарыстанне гэтых сродкаў, што працуюць з парушэннем устаноўленых правілаў абыходжання з інфармацыяй, якая складае дзяржаўную тайну, ці ствараюць радыёперашкоды функцыянаванню сродкаў урадавай і аператыўнай радыёсувязі;

ажыццяўляць дзяржаўны кантроль за станам крыптаграфічнай і інжынерна-тэхнічнай бяспекі шыфраванай, засакрэчанай і кадзіраванай сувязі ў дзяржаўных органах, на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці, а таксама сакрэтна-шыфравальнай работы ва ўстановах Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца за мяжой;

ажыццяўляць дзяржаўнае захоўванне аператыўных, следчых і іншых матэрыялаў, якія адносяцца да дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі, вызначаць парадак іх уліку, захоўвання і выкарыстання;

праводзіць спецыяльную праверку асоб у сувязі з допускам да дзяржаўных сакрэтаў, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

ажыццяўляць меры па забеспячэнню ўласнай бяспекі, уключаючы прадухіленне пранікнення спецыяльных службаў і арганізацый замежных дзяржаў, злачынных груп і некаторых асоб, у тым ліку з выкарыстаннем тэхнічных сродкаў, да звестак, якія абараняюцца органамі дзяржаўнай бяспекі;

мець друкаваны орган, вырабляць і выдаваць спецыяльную літаратуру, навучальныя і наглядныя дапаможнікі па пытаннях, якія адносяцца да іх дзейнасці;

выдаваць у межах сваёй кампетэнцыі абавязковыя для выканання міністэрствамі, іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі незалежна ад формаў уласнасці нарматыўна-прававыя акты, прадпісанні па пытаннях арганізацыі, забеспячэння функцыянавання і бяспекі ўрадавай, аператыўнай і закрытай ведамаснай сувязі, а таксама ў сферы абароны дзяржаўных сакрэтаў;

праводзіць навуковыя, вопытна-канструктарскія даследаванні, праектныя, будаўнічыя і вытворчыя работы самастойна і па дагаворах з прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі незалежна ад формаў уласнасці;

мець, распрацоўваць, вырабляць, набываць і выкарыстоўваць спецыяльныя тэхнічныя сродкі для выканання ўскладзеных на іх задач;

арандаваць або набываць неабходныя

(Заканчэнне на 7-й стар.)

* У далейшым — органы дзяржаўнай бяспекі.

# АБ ОРГАНАХ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.)**

для ажыццяўлення службовай дзейнасці памяшканні, будынкі і іншую нерухомасць, а таксама арандаваць лініі і каналы сувязі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і за яе межамі;

ствараць ва ўстаноўленым парадку ўстановы, арганізацыі і падраздзяленні, неабходныя для выканання абавязкаў і забеспячэння дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі;

ствараць спецыяльныя падраздзяленні для лакалізацыі і спынення актаў тэрарызму і іншых грамадска небяспечных замахаў;

ажыццяўляць у межах сваіх паўнамоцтваў узаемадзеянне са спецыяльнымі службамі, з праваахоўнымі органамі і іншымі арганізацыямі замежных дзяржаў, абменьвацца з імі на ўзаемнай аснове аператыўнай інфармацыяй, спецыяльнымі і іншымі сродкамі ва ўстаноўленым парадку;

заключаць ва ўстаноўленым парадку і ў межах сваіх паўнамоцтваў міжнародныя дагаворы па пытаннях узаемадзеяння са спецыяльнымі службамі, з праваахоўнымі органамі і іншымі арганізацыямі замежных дзяржаў;

накіроўваць ва ўстаноўленым парадку афіцыйных прадстаўнікоў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь у іншыя дзяржавы па ўзгадненню са спецыяльнымі службамі або з праваахоўнымі органамі гэтых дзяржаў у мэтах павышэння эфектыўнасці барацьбы са злачынствамі міжнароднага характару.

**Артыкул 15. Абавязкі органаў дзяржаўнай бяспекі**

Органы дзяржаўнай бяспекі абавязаны ажыццяўляць дзейнасць, аднесеную заканадаўствам Рэспублікі Беларусь да іх ведання, у тым ліку артыкуламі 8—13 гэтага Закона.

Органы дзяржаўнай бяспекі таксама абавязаны:

інфармаваць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і па яго даручэнню іншыя дзяржаўныя органы аб пагрозе бяспецы Рэспублікі Беларусь;

папярэджваць, выяўляць і спыняць разведвальную і іншую дзейнасць спецыяльных службаў і арганізацый замежных дзяржаў, а таксама некаторых асоб, накіраваную на прычыненне ўрону бяспецы Рэспублікі Беларусь, а таксама злачынствы, дазнанне і папярэдняе следства па якіх аднесены актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь да іх ведання, ажыццяўляць вышук асоб, якія ўчынілі ўказаныя злачынствы або падазраюцца ў іх учыненні;

ажыццяўляць контрразведвальныя мерапрыемствы па забеспячэнню ў межах сваіх паўнамоцтваў бяспекі ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, ў пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь, ва ўнутраных войсках Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, у іншых воінскіх фарміраваннях, а таксама ў органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, мытных органах Рэспублікі Беларусь і органах Дзяржаўнага падатковага камітэта Рэспублікі Беларусь;

забяспечваць у межах сваіх паўнамоцтваў бяспеку аб'ектаў абароннага комплексу, транспарту і сувязі, жыццезабеспячэння буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў, іншых стратэгічных аб'ектаў, а таксама бяспеку прыярытэтных навуковых распрацовак;

забяспечваць у межах сваіх паўнамоцтваў бяспеку дзяржаўных органаў, праводзіць мерапрыемствы па забеспячэнню бяспекі ўстаноў і грамадзян Рэспублікі Беларусь за яе межамі; аказваць у межах сваіх паўнамоцтваў садзейнічанне Службе бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Галоўнаму ўпраўленню дзяржаўнай аховы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па пытаннях, якія адносяцца да іх кампетэнцыі;

ажыццяўляць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь міжведамасны кантроль за забеспячэннем абароны дзяржаўных сакрэтаў дзяржаўнымі органамі і юрыдычнымі асобамі, а таксама каардынаваць іх дзейнасць па захаванасці дзяржаўных сакрэтаў; удзельнічаць у распрацоўцы і рэалізацыі мераў па абароне звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну; ва ўстаноўленым парадку ажыццяўляць меры, звязаныя з допускам грамадзян да такіх звестак;

аказваць у межах сваёй кампетэнцыі садзейнічанне пагранічным войскам Рэспублікі Беларусь у забеспячэнні аховы Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь;

удзельнічаць у межах сваіх паўнамоцтваў сумесна з іншымі дзяржаўнымі органамі ў забеспячэнні бяспекі праводзімых на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь грамадска-палітычных, рэлігійных і іншых масавых мерапрыемстваў;

арганізоўваць і забяспечваць крыптаграфічную і інжынерна-тэхнічную бяспеку шыфраванай, засакрэчанай і кадзіраванай сувязі ў Рэспубліцы Беларусь і яе ўстановах за мяжой; выконваць функцыі цэнтральнага органа шыфравальнай службы Рэспублікі Беларусь;

выяўляць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь выпраменьванні радыёэлектронных сродкаў, работа якіх прадстаўляе пагрозу бяспецы Рэспублікі Беларусь, а таксама выпраменьванні, якія выкарыстоўваюцца ў процiпраўных мэтах; ажыццяўляць улік характарыстык сігналаў выпраменьваючых радыёэлектронных сродкаў у межах сваёй кампетэнцыі;

удзельнічаць у межах сваёй кампетэнцыі ў вырашэнні пытанняў, якія датычацца ўезду на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і выезду за яе межы грамадзян Рэспублікі Беларусь, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, а таксама рэжыму знаходжання замежных грамадзян і асоб без грамадзянства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

ажыццяўляць мерапрыемствы па забеспячэнню баявой і мабілізацыйнай гатоўнасці органаў дзяржаўнай бяспекі, весці падрыхтоўку іх сіл і сродкаў да дзеянняў пры ўзнікненні надзвычайных сітуацый у рэспубліцы або сумежных з ёю дзяржавах у мірны час;

ажыццяўляць кадравае забеспячэнне, у тым ліку арганізоўваць падрыхтоўку, перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі кадраў.

**Артыкул 16. Прымяненне зброі, спецыяльных сродкаў і фізічнай сілы**

Супрацоўнікам органаў дзяржаўнай бяспекі дазваляецца захоўванне і нашэнне табельнай агнястрэльнай зброі і спецыяльных сродкаў. У выпадках і парадку, прадугледжаных Законам Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі» і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, яны маюць права прымяняць зброю, спецыяльныя сродкі і фізічную сілу.

**Артыкул 17. Узаемадзеянне органаў дзяржаўнай бяспекі з дзяржаўнымі органамі, грамадскімі аб'яднаннямі, грамадзянамі і замежнымі ўстановамі**

Органы дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляюць сваю дзейнасць ва ўзаемадзеянні з міністэрствамі і іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, грамадскімі аб'яднаннямі і грамадзянамі.

Органы дзяржаўнай бяспекі ў межах сваёй кампетэнцыі могуць выкарыстоўваць у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, сілы і сродкі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь, іншых дзяржаўных органаў, якія забяспечваюць нацыянальную бяспеку Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўныя органы, а таксама прадпрыемствы, установы, арганізацыі і іх службовыя асобы абавязаны аказваць у межах сваёй кампетэнцыі садзейнічанне органам дзяржаўнай бяспекі ў выкананні ўскладзеных на іх абавязкаў, вызначаных гэтым Законам.

Юрыдычныя і фізічныя асобы ў Рэспубліцы Беларусь, якія аказваюць паслугі паштовай сувязі, электрасувязі ўсіх відаў, функцыянаванне якіх ажыццяўляецца ў межах адзінай нацыянальнай сістэмы сувязі (за выключэннем ведамасных і іншых сістэм, што не маюць выхаду на сетку агульнага карыстання), абавязаны па патрабаванню органаў дзяржаўнай бяспекі ўключаць у састаў апаратных сродкаў сертыфікаванае дадатковае абсталяванне і праграмныя сродкі, забяспечваць, пры наяўнасці санкцыі пракурора, доступ да спецыяльнага абсталявання для зняцця інфармацыі з каналаў сувязі, а таксама ствараць іншыя ўмовы, неабходныя для правядзення органамі дзяржаўнай бяспекі аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў.

У мэтах вырашэння задач забеспячэння бяспекі Рэспублікі Беларусь ваеннаслужачыя органаў дзяржаўнай бяспекі могуць быць прыкамандзіраваны ва ўстаноўленым парадку да дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад формаў уласнасці з пакіданнем іх на ваеннай службе ў органах дзяржаўнай бяспекі.

Узаемадзеянне органаў дзяржаўнай бяспекі са спецыяльнымі службамі, з праваахоўнымі органамі і іншымі арганізацыямі замежных дзяржаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

## Глава 4. СІЛЫ І СРОДКІ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ

**Артыкул 18. Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай бяспекі**

Органы дзяржаўнай бяспекі камплектуюцца (у тым ліку і на конкурснай аснове) ваеннаслужачымі, рабочымі і служачымі.

Ваеннаслужачыя органаў дзяржаўнай бяспекі (за выключэннем ваеннаслужачых тэрміновай службы), а таксама асобы з ліку рабочых і служачых, назначаныя на пасады ваеннаслужачых, з'яўляюцца супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай бяспекі.

Супрацоўнікам органаў дзяржаўнай бяспекі можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, здольны па сваіх асабістых і дзелавых якасцях, узросту, адукацыі і стану здароўя выконваць ускладзеныя на яго абавязкі.

Ваеннаслужачыя органаў дзяржаўнай бяспекі праходзяць ваенную службу ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб праходжанні ваеннай службы з улікам устаноўленых гэтым Законам асаблівасцяў, абумоўленых спецыфікай абавязкаў, якія выконваюцца імі.

Колькасны састаў органаў дзяржаўнай бяспекі, а таксама навучальных устаноў, устаноў, арганізацый, воінскіх часцей і іншых падраздзяленняў, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні органаў дзяржаўнай бяспекі (без уліку персаналу па абслугоўванню будынкаў), устанаўліваецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Правы і абавязкі рабочых і служачых органаў дзяржаўнай бяспекі вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Ваеннаслужачым, рабочым і служачым органаў дзяржаўнай бяспекі забараняецца займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю асабіста або праз пасрэднікаў. Ваеннаслужачыя органаў дзяржаўнай бяспекі не маюць права сумяшчаць ваенную службу (за выключэннем выпадкаў, калі гэта выклікана службовай неабходнасцю) з іншай аплатнай дзейнасцю, акрамя займання навуковай, выкладчыцкай і іншай творчай работай, калі гэта не перашкаджае выкананню службовых абавязкаў.

**Артыкул 19. Прававая абарона супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі**

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай бяспекі пры выкананні службовых абавязкаў з'яўляюцца прадстаўнікамі ўлады і знаходзяцца пад абаронай дзяржавы. Ніхто не мае права ўмешвацца ў службовую дзейнасць супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі, акрамя дзяржаўных органаў і службовых асоб, прама ўпаўнаважаных на тое заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Невыкананне або перашкоджанне выкананню законных патрабаванняў супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі, зняважа яго гонару і годнасці, пагроза, насілле або замах на яго жыццё, здароўе і маёмасць, а таксама іншыя дзеянні, якія перашкаджаюць выкананню ўскладзеных на яго абавязкаў, цягнуць за сабой адказнасць, прадугледжаную заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай бяспекі маюць права на апраўданую прафесіянальную рызыку. Рызыка прызнаецца апраўданай, калі ўчыненае дзеянне аб'ектыўна вынікала з абставінаў, якія складліся, а законная мэта не магла быць дасягнута без учынення такога дзеяння і супрацоўнік, які дапусціў рызыку, прыняў у абставінах, якія стварыліся, усе магчымыя меры для прадухілення прычынення шкоды.

*(Частка чацвёртая не прыводзіцца як не ўступіўшая ў сілу.)**

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай бяспекі пры выкананні службовых абавязкаў маюць права па спецыяльнаму знаку бясплатна карыстацца ўсімі відамі грамадскага і чыгуначнага пасажырскага транспарту гарадскіх, прыгарадных і мясцовых зносінаў (акрамя таксі).

Пры накіраванні ў службовыя камандзіроўкі супрацоўнікі органаў дзяржаўнай бяспекі карыстаюцца правам браніравання і атрымання без чаргі месцаў у гасцініцах і набыцця праязных дакументаў на ўсе віды транспарту незалежна ад наяўнасці месцаў.

Супрацоўнікам органаў дзяржаўнай бяспекі, якія выкарыстоўваюць у службовых мэтах асабісты транспарт, выплачваецца грашовая кампенсацыя ў парадку і памеры, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры выкананні супрацоўнікам органаў дзяржаўнай бяспекі службовых абавязкаў не допускаецца яго прывод, затрыманне, асабісты дагляд і дагляд яго рэчаў, а таксама дагляд асабістага і выкарыстоўваемага ім транспарту без афіцыйнага прадстаўніка органаў дзяржаўнай бяспекі, акрамя выпадкаў затрымання яго пры ўчыненні злачынства.

Звесткі аб супрацоўніках органаў дзяржаўнай бяспекі, якія выконваюць (выконвалі) спецыяльныя заданні ў спецыяльных службах і арганізацыях замежных дзяржаў, у злачынных групах, складаюць дзяржаўную тайну і могуць быць выдадзены толькі з іх згоды ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20. Забеспячэнне асабістай бяспекі супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі і членаў іх сем'яў**

Органы дзяржаўнай бяспекі абавязаны забяспечыць асабістую бяспеку сваіх супрацоўнікаў і членаў іх сем'яў ад звязаных са службовай дзейнасцю злачынных замахаў на іх жыццё, здароўе, гонар, годнасць і маёмасць.

Меры па забеспячэнню асабістай бяспекі супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі і членаў іх сем'яў прымяняюцца пры наяўнасці рэальнай пагрозы іх жыццю, здароўю і ўласнасці.

Для забеспячэння абароны жыцця, здароўя і маёмасці супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі і членаў іх сем'яў прымяняюцца з улікам канкрэтных акалічнасцяў наступныя меры:

асабістая ахова, ахова жылля і маёмасці;

выдача зброі, спецыяльных сродкаў індывідуальнай абароны і паведамленне аб небяспецы;

часовае змяшчэнне ў бяспечнае месца;

перавод са згоды супрацоўніка і членаў яго сям'і на іншае месца службы (работы) або змяненне месца вучобы ці перасяленне на іншае месца жыхарства;

змяненне пашпартных даных і замена дакументаў.

У мэтах рэалізацыі мераў асабістай бяспекі могуць праводзіцца аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы ў парадку, устаноўленым Законам Рэспублікі Беларусь «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці».

**Артыкул 21. Сацыяльная абарона супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі**

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай бяспекі падлягаюць абавязковаму асабістаму страхаванню на выпадак гібелі (смерці), ранення, калецтва, захворвання, атрыманых пры выкананні службовых абавязкаў, за кошт сродкаў органаў дзяржаўнай бяспекі. Рабочыя і служачыя, назначаныя на пасады ваеннаслужачых, а таксама асобы, якія працуюць па найму, падлягаюць абавязковаму дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню. Парадак і ўмовы страхавання вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Іншыя ўмовы сацыяльнай абароны і сацыяльнага забеспячэння супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 22. Асобы, якія садзейнічаюць органам дзяржаўнай бяспекі**

Органы дзяржаўнай бяспекі ў адпаведнасці з актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь могуць прыцягваць некаторых асоб з іх згоды да садзейнічання ў вырашэнні задач па забеспячэнню дзяржаўнай бяспекі на галоснай, негалоснай і канфідэнцыяльнай аснове, у тым ліку ў якасці няштатных супрацоўнікаў.

Асобы, якія аказваюць садзейнічанне органам дзяржаўнай бяспекі, маюць права:

заключаць кантракт з органамі дзяржаўнай бяспекі аб канфідэнцыяльным супрацоўніцтве;

атрымліваць ад супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі растлумачэнні сваіх задач, абавязкаў і правоў;

выкарыстоўваць ў мэтах канспірацыі па рашэнню органаў дзяржаўнай бяспекі дакументы, якія легендуюць асобу;

атрымліваць узнагароджанне;

атрымліваць кампенсацыю за ўрон, прычынены іх здароўю або маёмасці ў сувязі з аказаннем садзейнічання органам дзяржаўнай бяспекі.

Асобы, якія аказваюць садзейнічанне органам дзяржаўнай бяспекі, абавязаны:

выконваць умовы заключаных з органамі дзяржаўнай бяспекі кантракта або дамоўленасці аб супрацоўніцтве;

не дапускаць наўмыснага прадстаўлення неаб'ектыўнай, няпоўнай, ілжывай або паклёпніцкай інфармацыі;

не выдаваць звесткі, якія складаюць дзяржаўныя сакрэты, і іншыя звесткі, якія сталі ім вядомымі ў працэсе аказання садзейнічання органам дзяржаўнай бяспекі.

Звесткі аб асобах, якія аказваюць (аказвалі) садзейнічанне органам дзяржаўнай бяспекі на канфідэнцыяльнай аснове, складаюць дзяржаўную тайну і могуць быць выдадзены толькі з пісьмовай згоды гэтых асоб і ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры наяўнасці дастатковых даных, якія сведчаць, што ўказаным асобам у сувязі з іх садзейнічаннем органам дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, а таксама членам іх сем'яў або блізкім сваякам пагражаюць забойствам, насіллем або знішчэннем маёмасці, органы дзяржаўнай бяспекі абавязаны прыняць неабходныя меры па абароне іх жыцця, здароўя, гонару, годнасці і маёмасці, а таксама ўстанаўленню вінаватых асоб.

**Артыкул 23. Інфармацыйнае забеспячэнне органаў дзяржаўнай бяспекі**

Для ажыццяўлення сваёй дзейнасці органы дзяржаўнай бяспекі распрацоўваюць, ствараюць і эксплуатуюць інфармацыйныя сістэмы, сістэмы сувязі і сістэмы перадачы даных, сродкі абароны інфармацыі, уключаючы сродкі крыптаграфічнай абароны, а таксама выкарыстоўваюць інфармацыйныя сістэмы і базы даных дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый незалежна ад форм уласнасці і грамадскіх аб'яднанняў ва ўстаноўленым актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь парадку.

Парадак уліку і выкарыстання інфармацыі аб учыненых правапарушэннях, якія закранаюць пытанні бяспекі Рэспублікі Беларусь, а таксама звестак аб разведвальнай і іншай дзейнасці спецыяльных службаў і арганізацый замежных дзяржаў, некаторых асоб, накіраванай на прычыненне ўрону бяспецы Рэспублікі Беларусь, устанаўліваецца нарматыўнымі актамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 24. Сродкі ўзбраення і аснашчэння органаў дзяржаўнай бяспекі**

Органы дзяржаўнай бяспекі распрацоўваюць, ствараюць, набываюць і выкарыстоўваюць сродкі ўзбраення і аснашчэння, уключаючы спецыяльныя тэхнічныя і іншыя сродкі, набываюць і выкарыстоўваюць баявую зброю, прынятую на ўзбраенне органаў дзяржаўнай бяспекі, а таксама іншую службовую і грамадзянскую зброю і боепрыпасы да яе.

Продаж, перадача, вываз за межы Рэспублікі Беларусь і ўвоз на яе тэрыторыю сродкаў узбраення і аснашчэння, уключаючы спецыяльныя тэхнічныя і іншыя сродкі, агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў да яе, прызначаных для выкарыстання ў дзейнасці органаў дзяржаўнай бяспекі, ажыццяўляюцца ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25. Фінансавае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне органаў дзяржаўнай бяспекі**

Фінансаванне органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту і іншых прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь крыніц.

Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляецца шляхам набыцця неабходных матэрыяльна-тэхнічных сродкаў на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях як на ўнутраным, так і знешнім рынку.

Органы дзяржаўнай бяспекі могуць мець службовы жылы фонд, які фарміруецца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## Глава 5. КАНТРОЛЬ І НАГЛЯД ЗА ДЗЕЙНАСЦЮ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ

**Артыкул 26. Кантроль за дзейнасцю органаў дзяржаўнай бяспекі**

Кантроль за дзейнасцю органаў дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у межах паўнамоцтваў, дэлегаваных яму Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 27. Пракурорскі нагляд**

Нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь органамі дзяржаўнай бяспекі ажыццяўляюць Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь і падначаленыя яму пракуроры ў межах іх кампетэнцыі.

## Глава 6. ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 28. Уступленне гэтага Закона ў сілу**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Артыкул 29. Прывядзенне нарматыўных актаў у адпаведнасць з гэтым Законам**

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прывесці ведамасныя нарматыўныя акты ў адпаведнасць з гэтым Законам.

**Артыкул 30. Прызнанне страціўшымі сілу некаторых заканадаўчых актаў у сувязі з прыняццем гэтага Закона**

У сувязі з прыняццем гэтага Закона прызнаць страціўшымі сілу:

Закон Рэспублікі Беларусь ад 23 кастрычніка 1991 года «Аб змяненні ў сістэме органаў дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., № 31, арт. 583);

Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 15 студзеня 1992 года «Аб Часовым палажэнні аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 6, арт. 113).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*3 снежня 1997 г., г. Мінск.*
*№ 102-З*

* *Частка чацвёртая артыкула 19 «Закона Рэспублікі Беларусь «Аб органах дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь» не ўступіла ў сілу ў адпаведнасці з часткай восьмай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.*

# УКАЗ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 24

## Аб унясенні дапаўнення ў Часовы парадак нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь

1. Абзац чацвёрты часткі першай пункта 1 Часовага парадку нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 кастрычніка 1994 г. № 135 (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 7, арт. 163; № 15, арт. 388; 1995 г., нумар 8, арт. 171; Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 4, арт. 138; № 11, арт. 380), пасля слоў: «ажыццяўляюцца плацяжы» дапоўніць словамі: «за водазабеспячэнне і іншыя камунальныя паслугі».

2. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*13 студзеня 1998 г.*
*г.Мінск.*

# БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**17 СТУДЗЕНЯ.**

80 гадоў з дня нараджэння (1918-1969) Я. А. Барбашына, вучонага ў галіне дыферэнцыяльных ураўненняў, аўтаматычнага кіравання, механікі і прыкладной матэматыкі, акадэміка АН Беларусі.

70 гадоў з дня нараджэння (1928) У. П. Сцепанчука, доктара тэхнічных навук, прафесара, вучонага ў галіне цеплаэнергетыкі, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі.

**18 СТУДЗЕНЯ.**

95 гадоў з дня нараджэння (1903-1975) А. В. Фурсенкі, вучонага ў галіне палеанталогіі, доктара навук, прафесара БДУ, члена-карэспандэнта АН Беларусі.

80 гадоў з дня нараджэння (1918-1980) У. А. Парахневіча, Героя Савецкага Саюза, заслужанага настаўніка Беларусі.



*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## КРУГАВАЯ КРЫЖАВАНКА

**Ад лічбы ўправа:** 1. Адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці ў часы мінулай вайны. 2. Кіргізскі народны эпас. 3. Беларускі кампазітар, аўтар музыкі да камедыі «Несцерка». 4. Часовы, неарганізаваны лагер. 5. Фізічнае знішчэнне палітычных і г. д. праціўнікаў. 6. Самы вялікі ў Еўропе кальцавы радыётэлескоп. 7. Вядомы беларускі батанік. 8. Балотная птушка. 9. Украінскі народны танец. 10. Сцвярджэнне, якое патрабуецца раскрыць. 11. Маштабны літаратурны твор. 12. Народны пісьменнік Беларусі. 13. Марская жывёла, якая жыве вялікімі калоніямі на падводных скалах. 14. Цэнтральнае возера Бярэзінскага запаведніка. 15. Савецкі скрыпач, уладальнік міжнароднай прэміі імя каралевы Елізаветы. 16. Паэма В. Дуніна-Марцінкевіча. 17. Старажытная залатая або сярэбраная манета ў многіх краінах Еўропы. 18. Старажытнае паселішча на тэрыторыі Мінскага раёна. 19. Рыба сямейства карпавых. 20. Дваранскі тытул. 21. Даўнейшая высакаякасная сталь для халоднай зброі. 22. Грэчаскі графік, аўтар славутай літаграфіі «Рыбакі». 23. Прадукт працы, які мае пэўную каштоўнасць. 24. Жыхар карэннай народнасці ў Краснаярскім краі. 25. Французскі скульптар, аўтар партрэтаў многіх дзеячаў Вялікай французскай рэвалюцыі. 26. Пісьменнік, які калісьці працаваў у газеце «Чырвоная змена», аўтар славутай казкі «Стары Хатабыч». 27. Горад на поўначы ЗША. 28. Пасма валасоў. 29. Нестабільная элементарная часціца з нулявым зарадам. 30. Персанаж аповесці Я. Коласа «Дрыгва».

**Ад лічбы ўлева:** 1. Птушка сямейства курыных. 2. Опера Ж. Маснэ. 3. Будаўнічы матэрыял, сорт цэглы. 4. Краіна на Поўначы Афрыкі. 5. Від паветранага бою. 6. Складаная галаваломка. 7. Украінскае мужчынскае імя. 8. Порт і курорт на Адрыятычным моры. 9. Лёгкая незласлівая насмешка. 10. Сталіца дзяржавы ў Прыбалтыцы. 11. Славуты расійскі мастак, аўтар карціны «Бурлакі на Волзе». 12. Ураджэнец Стаўраполля, Краснадарскага краю (разм.). 13. Амплуа тэатральнага, цыркавога акцёра. 14. Дыван без ворса. 15. Свяшчэнная кніга мусульман. 16. Сукупнасць гукаў у выніку хістання галасавых звязак. 17. Рака на Сярэднім Урале. 18. Ільдзіна ў тарасах. 19. Памяшканне для пасажыраў у грамадскім транспарце. 20. Навігацыйны знак на фарватэры ракі. 21. Гандлёвае месца для продажу тавару шырокага ўжытку. 22. Старажытны горад на Прыпяці. 23. Кантрольны таварны, гандлёвы і да т. п. дакумент. 24. Возера на Далёкім Усходзе Расіі, месца сутыкнення з японскімі войскамі. 25. Старажытны французскі бальны танец. 26. Беларускі кампазітар, аўтар оперы «Кастусь Каліноўскі». 28. Краіна ў паўднёва-ўсходняй Азіі. 29. Рускі канструктар стралковай зброі. 30. Сталіца вялікай дзяржавы ў Азіі.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
г. Бабруйск.

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (3 студзеня). Па гарызанталях:** 5. Дадатак. 6. Заапарк. 10. Кара. 11. Пуня. 12. Краснапёрка. 14. Каралі. 15. Катах. 16. Партал. 19. Радно. 20. Крыга. 23. Краска. 24. Атаман. 27. Парламенцёр. 29. Трап. 31. Борт. 32. Грамата. 33. Летапіс. **Па вертыкалях:** 1. Мара. 2. Статар. 3. Камора. 4. Крап. 7. Кантата. 8. Тракт. 9. Снежань. 12. Калейдаскоп. 13. Амартызатар. 17. Згода. 18. Закон. 21. Серабро. 22. Гравюра. 25. Прыпай. 26. Сціртa. 28. Міг. 30. Порт. 31. Блік. Зашыфраванае віншаванне такое: **«З Новым годам, сябры!».**

**Лічбавая крыжаванка (3 студзеня).** Рашэнне яе гл. на малюнку.



Трэба адзначыць, што нашы чытачы аператыўна адгукнуліся на яе, і першая ж пошта прынесла адразу чатыры адказы, якія даслалі А. Зінкевіч з Глыбокага, І. Грэчка са Століна, А. Ганебны з Глыбоцкага раёна, М. Ярашэвіч з Докшыц, а потым адказы пасыпаліся, нібы снег. Значыць, лічбавая крыжаванка спадабалася чытачам.

На іншыя заданні «Суботніх вечароў» раней за іншых даслала адказ Л. Нічыпарчык з Брэста.

## ЯКАЯ ПАРА ЛІШНЯЯ?

На малюнку — пяць пар кружочкаў, адна з якіх — лішняя, бо падабрана з парушэннем агульнага прынцыпу для астатніх чатырох пар. Якая з пар кружочкаў лішняя і чаму?



## КРЫПТАГРАМА



Прачытайце зашыфраваную ў крыптаграме слушную прымаўку. Для гэтага трэба спачатку разгадаць ключавыя словы. А потым адпаведныя літары гэтых слоў упішыце замест лікаў на малюнку крыптаграмы.

а) 1-2-3-4-5-6-7 — аб'яднанне купцоў або рамеснікаў у сярэднявяковыя часы;

б) 8-9-10-11-11-12 — хлебнае зерне;

в) 9-13-14 — раздроблены будаўнічы камень;

г) 3-15-16-17-6 — прыналежнасць для кіравання запрэжаным канём.

## ГАЛАВАЛОМКА

Угледзьцеся ўважліва ў малюнак галаваломкі — і вы адшукаеце ключык да разгадкі яе. У выніку вы прачытаеце слушную прымаўку.



**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

## ЗЯЛЁНАЕ ЖЫТА

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

На радзіме Івана Мележа, у вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна, Васіль Купрыяненка запісаў песню «Зялёнае жыта». Цяпер яна пастаянна знаходзіцца ў рэпертуары Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята», у якім гэты таленавіты музыка і збіральнік фальклору з'яўляецца мастацкім кіраўніком.

Песня «Зялёнае жыта» гучыць як вітальная: па-мастацку проста і ветліва велічаюцца госці.

Спяваюць гэтую песню і на развітанне. Асабліва дарэчы гучыць яна, калі госці самі напамінаюць, што іх разлучае далёкая дарога і ім не застацца з гаспадарамі, як той асацэ не шумець на адной ніве разам са збажыною.

*Зялёнае жыта, зялёна, 2 р.*
*Зялёнае жыта — асака.* }
*Прыехалі госці здаляка.* } 2 р.

*Зялёнае жыта, зялёна, 2 р.*
*Зялёнае жыта і авёс.* }
*Дарагія госці ў мяне ёсць.* } 2 р.

*Зялёнае жыта, зялёна, 2 р.*
*Зялёнае жыта жнеі жнуць,* }
*Дарагія госці водку п'юць.* } 2 р.

*Зялёнае жыта, зялёна, 2 р.*
*Зялёнае жыта — васількі.* }
*Дарагія госці, дзе былі?* } 2 р.

*Зялёнае жыта, зялёна, 2 р.*
*Зялёнае жыта — асака.* }
*Паехалі госці здаляка.* } 2 р.

Незабыўнае ўражанне робіць песня за бяседным сталом. «Зялёнае жыта жнеі жнуць», — мастацкае папярэджанне пра згубнасць маладога жыцця з-за празмерных захапленняў ... і ўсё жыццё красуе, ніва зелянее — і песня славіць гэта.

**Міхась ШАВЫРКІН.**






*УСХОДНІ ГАРАСКОП НА БУДУЧЫ ТЫДЗЕНЬ*

## БЛІЗНЯТЫ СУСТРЭНУЦЦА З КІМСЬЦІ СА СВАЯКОЎ, ДЗЕВА АБМЯРКУЕ З НАЧАЛЬСТВАМ СВАЕ ПРАБЛЕМЫ...

КАЗЯРОГ павінен задумацца над першачарговымі мэтамі сваёй дзелавой дзейнасці і зрабіць усё магчымае для іх дасягнення. Зробленыя вамі цяпер намаганні ў гэтым накірунку прынясуць поспех. Не адмаўляйцеся ад дапамогі калег і сяброў, калі яна будзе прапанавана. Згаджайцеся з дзелавымі прапановамі, асабліва якія датычацца стварэння сумеснага прадпрыемства. Гэты праект дапаможа вам замацаваць фінансавыя пазіцыі.

ВАДАЛЕЙ даведаецца аб важнай навіне, якая, магчыма, зменіць вашы адносіны да жыцця і паўплывае на кар'еру. Вы шмат выйграеце ад знаёмства з уплывовай персонай. Яна дапаможа ў бізнесе і рэалізацыі дзелавых праектаў. Дамашнія праблемы пачнуць адцягваць вас ад важных спраў, але лепш перастаць звяртаць увагу на сваркі ў сям'і і цалкам прысвяціць сябе бізнесу. Гэта цяпер для вас больш важна.

РЫБЫ няхай прыслухаюцца да парады свайго юрыста і толькі пасля гэтага пачнуць супрацоўніцтва з новымі партнёрамі. Нішто не перашкаджае вашаму далёкаму падарожжу, а фінансавыя праблемы будуць вырашаны на гэтым тыдні. Аматары азартных гульняў ці сумніўных здзелак на біржы павінны цяпер быць асабліва асцярожнымі, хаця, лічаць планеты, такія заняткі ў бліжэйшай перспектыве прывядуць да ўдачы.

АВЕНЫ знойдуць выхад з праблем у бізнесе і пачнуць хутка прасоўвацца да поспеху. Будуць задаволены ўсе вашы жаданні адносна ўступлення ў новыя партнёрскія адносіны, атрымання пазыкі, паступлення на работу і аб членстве ў прэстыжных клубах. У рабоце вы захаваеце поўную свабоду дзеянняў, што дазволіць дабіцца добрых вынікаў. У адзенні выбірайце блакітны і зялёны колеры, і гэта прынясе вам удачу.

ЦЯЛЬЦАМ прыйдзецца шмат працаваць і назапасіць грошай, перш чым пашыраць бізнес. Планеты бачаць, што на гэтым шляху вас чакаюць цяжкасці, але ў рэшце рэшт вы даб'яцеся ажыццяўлення ўсяго задуманага. Адных ваеннаслужачых чакае на гэтым тыдні паведамленне аб замежнай камандзіроўцы, другіх — аб пераводзе да новага месца службы ў далёкі гарнізон. Ваша асабістае жыццё ўступае ў паласу шчасця і асалоды ад кахання.

БЛІЗНЯТЫ сустрэнуцца з адным з родных, які падрыхтаваў вам заманлівыя дзелавыя прапановы. Вельмі магчыма, што хутка вы распачняце сумесны бізнес, да пачатку якога трэба падрыхтавацца ўжо цяпер. У фінансавых адносінах гэты тыдзень будзе вельмі пасляховым. Уласныя дасягненні нададуць вам упэўненасці ў справах, а падтрымка з боку партнёраў дазволіць дабіцца добрых дывідэндаў.

РАК не стане адыходзіць ад спраў, а, наадварот, возьмецца за іх з энергіяй і ўпартасцю. Вы павінны быць гібкімі і пазбягаць рознагалоссяў з партнёрамі. Толькі ў гэтым выпадку да вас прыйдуць падтрымка і дапамога. Карысная парада дапаможа з вялікім поспехам весці справы. Фінансавыя аперацыі прынясуць даход, а мары аб набыцці нерухомасці хутка здзейсняцца. У сямейным жыцці чакаюцца адны святы.

ІЛЬВЫ даб'юцца вялікіх поспехаў у рабоце, дзелавой дзейнасці, будуць вельмі задаволеныя здзяйсненнем усіх сваіх жаданняў. Планеты бачаць цудоўную будучыню ў тых, хто імкнецца да палітычнай дзейнасці. Важная асоба дапаможа вам пачаць палітычную дзейнасць, але яна не будзе гладкай. Не за гарамі ў вас падарожжа за мяжу, а таксама поспехі ў фінансавых аперацыях.

ДЗЕВА можа абмеркаваць з начальствам наспеўшыя праблемы і атрымаць дапамогу ў іх вырашэнні. Сваіх мэтаў вы зможаце дасягнуць рознымі сродкамі і шляхамі, у тым ліку ў выніку замежнага турнэ, інвестыцый у важныя праекты, а таксама з дапамогай сваіх родных, больш дакладна — іх фінансавых сродкаў. Адносіны з каханым чалавекам зробяць гэты тыдзень прыемным ва ўсіх адносінах. Адзінокім планеты гарантуюць рамантычныя прыгоды.

ШАЛІ будуць цалкам кіраваць сітуацыяй і разглядаць розныя магчымасці для пашырэння бізнесу. Дзяржслужачыя атрымаюць падтрымку начальства ў рабоце, пачнуць дзейнічаць больш упэўнена і з большай карысцю для сябе. Выгадны кантракт падпішуць будаўнікі, а архітэктары пачнуць новы праект. Вялікія дывідэнды можна будзе атрымаць з дапамогай значных інвестыцый. Асабістыя мэты будуць дасягнуты ў час марскога круізу.

СКАРПІЁНЫ з кагорты прадпрымальнікаў дасягнуць на гэтым тыдні вяршыні поспеху. Планеты абяцаюць яго таксама банкірам і біржавым маклерам. Дзяржслужачым пашанцуе не менш. Іх чакае новая кватэра ці набыццё аўтамабіля. Усе змогуць зарабіць столькі грошай, што іх хопіць не толькі на бягучыя выдаткі, але і застанецца на «чорны» дзень. Камандзіраваныя вернуцца да сваіх сем'яў, а іншым занятым справамі лепш за ўсё адпачыць і прысвяціць сябе любімым захапленням.

СТРАЛЬЦОЎ чакае сітуацыя, якая крута зменіць у лепшы бок усё ў іх жыцці. Неабходна толькі не страціць шанц і своечасова яго скарыстаць. Прапановы аб сумесным бізнесе лепш за ўсё спачатку добра абмеркаваць. Рызыкоўныя здзелкі прынясуць большую выгаду. Прыйдзецца, аднак, пачакаць з падарожжам з-за ўзнікнення надзвычайных сітуацый на рабоце. Прадпрымальнікі павінны рыхтавацца да складанага перыяду ў рабоце і сутыкнення з праблемамі ў бізнесе.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР—ТАСС.**
*г. Дэлі.*

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by. http://www.zvyazda-daily.minsk.by.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.118. Індэкс 63850.
Зак. № 238.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 6 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12